# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

9 верасьня 1999 №26 кошт 1 літ


## Два прэзыдэнты — у Вільні

26 жніўня ў Вільню з Канады прыбыла спн. Івонка Сурвілла, Прэзыдэнт БНР. Такім чынам у нашай старажытнай сталіцы адбылася гістарычная сустрэча двух прэзыдэнтаў, бо, як мы ўжо пісалі, у Вільні цяпер стала знаходзіцца й выконваючы абавязкі Прэзыдэнта РБ сп. Сямён Шарэцкі. Галоўная мэта гэтае сустрэчы было падпісаньне імі супольнага «Звароту да народу Беларусі, усіх беларусаў сьвету, парлямантаў і ўрадаў дэмакратычных краінаў». На падпісаньне гэтага, безумоўна, значнага ў палітычным жыцьці Беларусі дакуманту прыехалі таксама былы Старшыня Вярхоўнага Савету РБ сп. Станіслаў Шушкевіч і Прэзыдэнт ЗБС «Бацькаўшчына» сп. Радзім Гарэцкі. Падпісаньне адбылося 27 жніўня ў дамках ТБК. (Тэкст Звароту чытайце на ст. 7).

Такім чынам, нашая беларуская апазыцыя, на разкол якой гэтак спадзявалася й спадзяецца Лукашэнкаўскае акружэньне, упэўнена йдзе па шляху аб'яднаньня вакол ідэі незалежнасьці Бацькаўшчыны, пабудаваньня сувэрэннай, дэмакратычнай, эўрапэйскай Беларусі. Усё мацней гучаць галасы нашых вядомых палітыкаў на карысьць ідэі стварэньня з апазыцыйных сілаў шырокага Беларускага Вызвольнага Руху.

Падпісанты Заявы мелі шмат сустрэчаў з прадстаўнікамі літоўскіх уладаў, з карэспандэнтамі літоўскіх і замежных СМІ. Спн. **Івонка Сурвілла** на гэтых сустрэчах захоўвалася сьціпла, коратка распавядала пра гісторыю стварэньня БНР, пра нязьменную падтрымку кіраўніцтвам БНР ідэі незалежнасьці Беларусі і ўсіх тых сілаў, каторыя гэтай ідэі трымаюцца, у прыватнасьці, апазыцыйных дэпутатаў Вярхоўнаму Савету 13-га скліканьня й асабіста сп. Сямёна Шарэцкага. У больш дасканалы аналіз сацыяльна-палітычнага жыцьця ў Беларусі яна не заглыблялася, дыпляматычна даючы слова высокім гасьцям зь Беларусі. Вось што спн. Івонка сказала ў дзень падпісаньня Звароту:

«Я прадстаўляю Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. Рада БНР была створаная ў 1918 годзе, і яна ж у тым самым годзе абвесьціла незалежнасьць Беларусі. На жаль, вельмі хутка пасьля гэтага абвешчаньня Рада была змушаная пакінуць Беларусь. Была яна пэўны час тут, у Літве, затым у Празе, і цяперака знаходзімся мы ў Паўночнай Амэрыцы. Мяне выбралі на старшыню Рады два гады таму. Рада БНР мае за мэту змагацца за незалежнасьць Беларусі, і гэта ейная галоўная мэта. Адзін з спосабаў змаганьня паводле Статуту – падтрымка змагароў за незалежнасьць на Бацькаўшчыне. У гэтым мамэньце мы цалкам падтрымоўваем сп. Шарэцкага, які зьяўляецца ад 21 ліпеня праўным Прэзыдэнтам РБ. Мы падзяляем зь ім нашыя мэты, бо ён, як і мы, змагаецца за незалежную Беларусь, супраць зьяднаньня Беларусі з Расеяй, за правы чалавека й за дэмакратыю, за эўрапэйскую Беларусь».

Працяг на старонцы 2



Шпацыр па вулках Вільні: Г. Шарэцкая, І. Сурвілла, С. Шарэцкі.

## БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЬНІЦТВА Ў СЬВЕЦЕ З НОВЫМ НАВУЧАЛЬНЫМ ГОДАМ!



Здымак Генадзя Жынкова

* * *

*Хутка ўжо ў гімназію ты пойдзеш,*
*Што для ўсіх ёсьць сёньня абавязкам,*
*Бо як шляху хто таго ня пройдзе,*
*То на сьвеце будзе жыці цяжка.*

*На жыцьцё глядзець вучыся слушна,*
*І старайся маме быць няўпартай,*
*Дома, ў школе – заўсягды паслушнай*
*Ды з усімі ветлівай быць варта.*

*Вось пакуль што слоў табе тых хваціць,*
*Толькі іх прыймі да сэрца шчыра,*
*Будуць цешыцца зь цябе у хаце,*
*І, напэўна, ў людзях будзеш мілай.*

**Станіслаў Станкевіч**
*ліпень, 1944 г.*

## ПАЧАТКОВАЯ ШКОЛА ПРЫ ВБГ

У 1944 годзе я закончыла пачатковую школу. Рыхтавалася ў гімназію. Гэта ўспрымалася ў хаце як значная падзея ў маім жыцьці, а бацька з гэтае аказыі прысьвяціў мне верш «Хутка ўжо ў гімназію ты пойдзеш...» Ды толькі вучыцца ў ВБГ мне не давялося. Нашыя «асвабадзіцелі» «асвабадзілі» нас ад усяго беларускага: ад гімназіі, касьцёла, царквы, музэю, друку...

Аднак хоць мая навука ў беларускай школе тым і закончылася, гады вучобы ў пачатковай школе пры нашай слаўтай ВБГ пакінулі незабыўны сьлед у маім жыцьці.

Нашыя пачатковыя клясы знаходзіліся ў тым самым двары, што й ВБГ, толькі ўваход быў іншы й нашыя калідоры не спалучаліся. Але на перапынках мы спатыкалі гімназістаў і глядзелі на іх з пашанаю. Пра нас, малых беларусаў, гімназія таксама не забывала. Мы заўсёды бралі ўдзел у гімназіяльных сьвятах, нават выступалі на сцэне з сваёй уласнай праграмай. І на лекцыі рэлігіі хадзілі да малодшых гімназістаў. Напачатку й заканчэньні школьнага году ўсе разам ішлі ў касьцёл і царкву. Ішлі на ўрачыстасьці ў беларускіх народных строях, пад згукі аркестра.

А якіх цудоўных настаўнікаў мы мелі: Любоў Русецкую й Язэпа Шнаркевіча. Л. Русецкая была вельмі прыгожая, высокая, стройная, з чорнымі, як смоль, валасамі й гэткімі самымі вачыма. Паважная, заўсёды стрыманая, зычлівая. На ўрачыстасьці прыходзіла элегантна апранутая, у чорнай сукенцы з чарнабуркай. Такой я яе запомніла на ўсё жыцьцё. У ейным абліччы было нешта цыганскае, і я заўсёды думала, што яна надавалася б на актрорку.

Язэп Шнаркевіч быў сама дабрыня. Калі ён тлумачыў лекцыі, здавалася, што хоча аддаць зь сябе ўсё, што можа. Не памятаю, каб хто з нашых настаўнікаў рэзка размаўляў, а нават з тымі вучнямі, каторыя заслугоўвалі на больш строгія адносіны.

У той час разам са мною вучыліся дзеці Я. Багдановіча, Я. Найдзюка, Куніцкага, Ф. Грышкевіча, А. Антановіча, Б. Грабінскага ды іншых. Мы ўсе сябравалі, бо сябравалі й нашыя бацькі, і нашыя сустрэчы працягваліся па-за школаю. Сёньня мне ўжо цяжка згадаць, якім менавіта чынам нам прышчаплялі любоў да роднае мовы, нацыянальных сьвятаў, культуры (перакананая, што зусім ня так, як тое рабілася ў савецкіх школах), аднак мы адчувалі сябе патрыётамі. І гэта засталося на ўсё жыцьцё.

Цяжкі лёс спаткаў нашую настаўніцу Русецкую. Сталінскае ліхалецьце не абмінула яе. Яна была арыштаваная, кінутая ў турму. У халоднай, вільготнай камэры страціла здароўе: у яе адняліся ногі. Калі не мыляюся, вярнулася яна дамоў да старэнькай маці пасьля трох гадоў зьняволеньня, хадзіць не магла. Памятаю, як мы з Аняй Антановіч наведвалі яе. Паклалі нам мамы крыху нейкіх харчоў (у той час і самі мала што мелі) і пайшлі мы да сваёй настаўніцы. Безумоўна, не магла яна распавядаць нам, дзецям, пра ўсё перажытае, пра што ня мела права распавядаць і дарослым. Але вочы ейныя сьвяціліся радасьцю й відаць было, як ёй прыемна бачыць сваіх вучаніцаў, тым больш у такую цяжкую для яе хвілю. Праўда, па некаторым часе яна папраўлялася і ўжо магла хадзіць. Я часам сустракала яе на вуліцы, размаўляла зь ёй, — але гэта былі кароткія сустрэчы... Апошняе, што я чула пра Русецкую, гэта ад маёй мамы. «Пэўна я ўжо Міру й не пабачу», — сказала мая настаўніца, сустрэўшы неяк маму ў горадзе. Так яно й сталася.

Настаўнікі пачатковай беларускай школы пры ВБГ шмат зрабілі дзеля выхаваньня маленькіх беларусаў і заслужылі на тое, каб ня быць забытымі.

**Міраслава Русак**



Вучні пачатковай школы пры ВБГ. Настаўнікі: Любоў Русецкая, Язэп Шнаркевіч. У першым радзе чацьвертая справа Міраслава Станкевіч (Русак). 1944 г.

**Нагадваем нашым чытачам, што ў выдавецтве «Рунь» завяршаецца праца над падрыхтоўкаю кнігі ўспамінаў пра ВБГ. Яшчэ ня позна даслаць нам у выдавецтва вашыя ўспаміны, фатаздымкі, матар'ялы.**

# Два прэзыдэнты – у Вільні

Каментуючы падпісаньне Звароту, спн. Івонка патлумачыла: «Я ўважаю, што гэта стане гістарычнай падзеяй, дзе сабраліся ўсе сілы апазыцыі супраць цяперашняга рэжыму ў Беларусі, уключна з Радай БНР, якая першы раз зьяўляецца на такім паседжаньні. Я вельмі задаволеная, што сюды прыехала і ўважаю, што сп. Шарэцкі робіць вельмі пазытыўную працу, што беларускі народ падтрымае нашую дзейнасьць і што мы дойдзем да рэзультатаў. Я ганаруся, што апазыцыя дасягнула поўнага адзінства й можа сесьці за стол перагавораў з рэжымам – гата найпершы крок, які цяпер неабходна зрабіць».

На сустрэчы зь беларускай грамадзкасьцю Вільні спн. Івонка гаварыла: «Я сёмы Прэзыдэнт БНР. Мяне выбралі два гады таму, і ад таго часу мы стараемся вельмі моцна, каб дапамагчы Беларусі стаць на ногі, вызваліцца ад ярма, якое ўсё яшчэ нясе наш народ з боку Ўсходу, і


Падчас чарговага інтэрвію

каб нарэшце нашая Бацькаўшчына сталася нармальнай, прыгожай, шчасьлівай краінай... У гэтым маменьце я мушу пагруталяваць сп. Шарэцкага з тым, як гэта робіць ён. Мы падпісалі Зварот да ўсіх беларусаў сьвету, да беларускага народу, да ўрадаў вольных краінаў, каб яны падтрымалі нашае змаганьне за незалежнасьць і, асабліва, каб не адбылося яднаньня Беларусі з Расеяй, якое так моцна стараецца зрэалізаваць Лукашэнка. Гэта быў бы канец Беларусі, на гэтым скончылася б нашае жыцьцё, як беларускай нацыі. Мы робім усё, каб не дапусьціць гэтага, і бачым у асобе сп. Шарэцкага вялікага нашага супрацоўніка... Мы шмат робім, каб пазбыцца нелегальнай улады ў Беларусі, каб стварыць тамака канстытуцыйны лад, каб дэмакратычныя сілы ў сьвеце не дапусьцілі зьнішчэньня Беларусі, далучэньня яе да Расеі. А гэта найлепш было б зрабіць, калі б увесь сьвет, памагаючы Расеі, сказаў расейскім шавіністычным уладам, што мы ня будзем вам дапамагаць, калі вы не пакінеце ў спакоі Беларусь... Мне вельмі прыемна быць у Вільні (я тутака ўжо другі раз), са сп. Хведарам Нюнькам я зьведала стары горад, ён паказаў мне беларускія мясьціны... У Вільні я чуюся як дома, цёпла на сэрцы, на душы... Цяпераka я паеду ў Францыю, дзе буду таксама спатыкацца з нашымі беларусамі... Рабіце ўсё магчымае, каб вызваліць Беларусь ад той страшнай бяды, якую яна цяпер перажывае... У Літве шмат можна зрабіць дзеля гэтага, бо вельмі блізкая Літва ад Беларусі».

Шматлікія выказваньні, кароткія прамовы, адказы карэспандэнтам СМІ, літоўскім і замежным палітычным дзеячам сп. **Сямёна Шарэцкага** мы зьмясьцілі пад адну назву «Сямён Шарэцкі пра...» (стар 6).

Сп. **Станіслаў Шушкевіч** у дзень падпісаньня Звароту сказаў (пер. мой – *А. М.*): «Я з задавальненьнем буду гаварыць па руску, бо гэта ці не адзіная станоўчая спадчына былога Савецкага Саюзу... Мы сёньня тут прынялі такую пастанову прадэманстраваць адзінства беларускіх дэмакратычных сілаў... Мы падпісалі Зварот, каторы яшчэ падпіша цэлы шэраг іншых падпісантаў».

Адказваючы на шматлікія пытаньні літоўскіх і замежных карэспандэнтаў, Станіслаў Шушкевіч дадаў: «У нас быў мэмарандум 9-ці палітычных партыяў, каторыя даверылі ад свайго імя Вярхоўнаму Савету акрэсьліць мандат перамоваў з Лукашэнкам, вызначыць (як адзінаму легітымнаму воргану ўлады ў Беларусі) дэлегацыю. І гэты працэс працягваецца. Мы заяўляем аб цалкавітай гатоўнасьці йсьці на перамовы. Але што цяпер жахае нашыя ўлады, дык гэта тое, што апазыцыя аказалася адзінай. Разумееце, апазыцыя выступіла адзіным фронтам і выказала давер Вярхоўнаму Савету, – і гэта ёсьць поўная нечаканасьць для лукашэнкаўскіх уладаў. Цяпер рэжым сутаргава шукае спосабаў, як сарваць гэтыя перамовы. Мы заявілі ў АБСЕ, што рэжым сфармаваў дэлегацыю не для вядзеньня перамоваў, а для перамоваў з грамадзкасьцю, маўляў, чаму мы павінныя весьці перамовы зь дзевяцьцю партыямі, калі ў нас ёсьць 100 аўганскіх арганізацыяў? Мы будзем весьці перамовы зь імі ды зь іншымі грамадзкімі арганізацыямі. (Гэта гаворыцца пасьля шматлікіх «чыстак» ды драконаўскага закону аб перагістрацыі! – *А. М.*). У гэтых пралукашэнкаўскіх арганізацыях усяго 4 тыс. чалавек. А ў адным БНФ ёсьць больш за 20 тыс. Рэжым пачынае ўхіляцца ад перамоваў, а апазыцыя, наадварот, гатовая сесьці за стол перамоваў, сфармавала ўсё для гэтага неабходнае, уключаючы мандат... Мандат жа вызначае Місія ОБСЕ ў Менску, і за яго выступаюць 52 з 53 краінаў, каторыя ўваходзяць у гэтую аўтарытэтную арганізацыю: толькі сама Беларусь выступае супраць. Расея нават маўчыць... Я абсалютна не сумняваюся ў перамозе дэмакратычных сілаў у Беларусі, але дзеля гэтага рэжым павінен выканаць прынамсі дзьве ўмовы. Па-першае, у варунках 100-працэнтнай манапалізацыі электронных СМІ практычна немагчыма пра-весьці свабодныя дэмакратычныя выбары, таму мы павінныя мець доступ да іх. Па-другое, у тых умовах, якія цяпер скл аліся, фальсіфікацыя можа быць яшчэ большай, чым падчас рэфэрэндуму... Там плянавыя лічбы пастаўляліся. Мы хочам, каб быў міжнародны кантроль. Без такога кантролю выбары сёньня ў Беларусі правесьці немагчыма. А ў нашай перамозе я не сумняваюся. Бо калі сёньня ў Менску вы з 20-ці чалавек знойдзеце аднаго сьпітага або з заскарузлымі мозгамі, каторы падтрымлівае Лукашэнку, дык гэта будзе вялікая вашая знаходка... Што тычыцца выбараў, Вярхоўным Саветам РБ распрацаваны Закон аб выбарах, які прайшоў экспэртызу ОБСЕ. Напрыклад, там прыбраная такая пазыцыя, што можна пачынаць выбары за 14 дзён (шырокая магчымасьць для фальсіфікацыяў)... Улады аднак пакуль што не заявілі пра сваю гатоўнасьць да перамоваў. Кожны дзень яны выступаюць з новымі заявамі, каб сарваць перамовы й выбары».


Падпісанты Звароту: С. Шушкевіч, І. Сурвілла, Р. Гарэцкі, С. Шарэцкі

Паводле не такой далёкай гісторыі Літоўскай Рэспублікі сп. Шушкевіч заўважыў: «Калі б Беларусь не прыкрыла Літву ад Расеі, я мяркую, што вам значна цяжэй было б дамагчыся таго, чаго вы дамагліся. У самыя цяжкія хвіліны мы былі з вамі. Калі вамі былі складзеныя ахвяры пры штурме парляманту, мы ўскладалі вянкі й ганарыліся вашай стойкасьцю. Зразумейце, што ў нас 1,5 тыс. км адкрытай граніцы з Расеяй, і мы працуем на ўмовах наймацнейшага расейскага ціску. Таму мы знаходзімся ў непамерна цяжэйшых умовах, і апроч таго ў нас больш 70 гадоў панавала кампартыя. Але ў нас, асабліва сярод маладых, ёсьць людзі з новым мысьленьнем і за імі будучае. Мы ўдзячныя літоўскаму народу за спрыяньне, аднак апроч нас саміх ніхто ў Беларусі не ўсталюе дэмакратыю, не забясьпечыць правы чалавека».

На пытаньне, як беларуская апазыцыя змагаецца за вызваленьне палітвязьняў рэжыму, сп. Шушкевіч адказаў: «Іхняе вызваленьне гэта першасная, сфармуляваная намі, умова для пачатку перамоваў з рэжымам. Мы лічым, што калі мы хочам мець вынікі ад перамоваў, дык кожны бок павінен зрабіць жэст добрай волі. Другая ўмова – доступ да СМІ. Але на першым мейсцы менавіта вызваленьне палітвязьняў. Іхняя зьняволеньне найвялікшая несправядлівасьць яшчэ й таму, што нават і ў лукашэнкаўскай канстытуцыі запісана, што правы дэпутатаў Вярхоўнага Савету захоўваюцца. А ў нас дэпутаты пасаджаныя ў турму без пастановы ВС аб дазволу прад'яўленьня ім санкцыяў».

Акадэмік **Радзім Гарэцкі** на падпісаньні Звароту сказаў (пер. мой – *А. М.*): «Я прадстаўляю тут Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», якое было створанае дзесяць гадоў таму назад. Як вы ведаеце лёс Беларусі й беларусаў вельмі складаны. Атрымалася так, што практычна цяпер кожны трэці беларус пражывае за межамі Радзімы. Каля 2 млн. – у далёкім замежжы й прыкладна 2 млн. – у краінах былога СССР. Таму й было створанае нашае Згуртаваньне. Арганізацыя нашая культурна-асьветніцкая, не палітычная. Аднак, улічваючы сёньняшнюю сытуацыю, мы супраць аб'яднаньня Беларусі з Расеяй, каторае, па-сутнасьці, паглынае Беларусь Расеяй і ператварае яе ў «Северо-Западный Край». Улічваючы таксама тое, што паводле праўнай Канстытуцыі 1994 году паўнамоцтвы Лукашэнкі скончыліся, мы далучыліся да сягоньняшняй акцыі...».

*Падрыхтаваў* **А. М.**

## 1 верасьня

У Беларускую сярэднюю школу імя Ф. Скарыны прыбылі прадстаўнікі Гарадзкога аддзела адукацыі, Згуртаваньня беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Літве, амбасады Рэспублікі Беларусь у Літве. Школа атрымала ў падарунак ад беларускіх уладаў мэблю для кабінета беларускай мовы й літаратуры ды камплект кампутараў. Працягваецца набор у першую клясу школы.

Інфармацыя: **45 91 27**

**Сяржук Вітушка**

## На катэдры беларусістыкі

Віленскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту пачаліся заняткі беларускіх студэнтаў. Сёлета на першым курсе стацыянарнага аддзяленьня вучыцца 16 чалавек. Працягваецца набор на завочнае навучаньне абітурыентаў зь Літвы й Беларусі. Дарэчы, сёлета ў Менску пры пэдагагічным унівэрсытэце адкрытая катэдра літуаністыкі. Там распачалі вучобу 10 студэнтаў. Названыя катэдры маюць падтрымліваць шчыльныя кантакты паміж сабою.

**Сяржук Вітушка**

## 75-гадовы юбілей



заслужанага артыста Літоўскай Рэспублікі **Лявона Мурашкі** быў урачыста адзначаны 3 верасьня ў залі Палацу работнікаў сувязі. Арганізатарам сьвяткаваньня быў Саюз музыкаў Літвы. Было шмат кветак, шмат віншаваньняў, у тым ліку ад Прэзыдэнта Літвы Адамкуса. Ня ўсе ахвотныя паслухаць славутага опэрнага сьпевака й выдатнага выканаўцы народных песьняў зьмясьціліся ў залі. Кажуць, кветак было так многа, што іх па канцэрце вывозілі на дзьвюх машынах. І шаноўны сп. Лявон Мурашка, нягледзячы на свой немалады век, паўтары гадзіны вёў рэй, на каторым клясычныя арыі, выкананыя па-італьянску, перамяжоўваліся зь беларускімі й літоўскімі народнымі песьнямі. Голас ягоны не пастарэў!

Калектыў рэдакцыі «Руні» далучаецца да віншаваньняў літоўскай і беларускай грамады!

**Сяржук Вітушка**



*Юры Весялкоўскі ведомы ў беларускім замежжы як публіцыст. Аднак праз усё сваё доўгае жыцьцё ён пісаў таксама й вершы, друкуючы іх зрэдку ў розных беларускіх выданьнях. І хоць іхны аўтар сьцьвярджае, што ён «пачаў пісаць вершы аказыйна», што «ёсьць гэта не паэтычныя вершы, але выказаныя думкі ў вершаванай форме», — чытач знойдзе ў ягоных творах шмат жывога пачуцьця, трапных вобразаў, глыбокіх разважаньняў. Усё гэта, безумоўна, сьведчыць пра паэтычныя здольнасьці нашага земляка, жыхара туманнага Альбіёну. Выдавецтвам «Рунь» рыхтуецца да друку кніга вершаў Ю. Весялкоўскага «Каляды на чужыне». Прапануем чытачам нізку твораў з будучай кнігі.*

**СТОЙ ЗА СВАЁ**

За што нясеш ты крыж пакуты,
Скажы, прыгнечаны народ?
Чаму суседам ты закуты?
Чаму ягоны церпіш гнёт?

Дакуль імпэрская няволя
Вісецьме будзе як абух?
Дакуль суседа самаволя
Будзе трымаць твой вольны дух?

Было ўжо ў сьвеце шмат імпэрый,
Дзе правіў пернік і бізун,
Ды час арлам іх выскуб пер'е,
Засыпаў іх пясок-зыбун...

Калі ж і ты, народзе любы,
Адкінеш тыраніі гнёт?
Калі твае зайграюць трубы
На сьвятой Вольнасьці прыход?

**НАЧНАЯ ЦІШЫНЯ**

Навокал цёмна. Цішыня.
Пасьля цяжкой работы дня
Салодка людзі спачываюць
І сьвежай сілы набіраюць.

Мяне ж даўно трывожаць ночы,
Што не даюць заплюшчыць вочы
І будзяць згадкі-успаміны
Пра злыя й добрыя хвіліны,

Што, быццам хмарак карагоды,
Плывуць ка мне без перашкоды
У глыбіні начной прасторы,
Як тыя караблі па моры.

А па-над імі ў вышыні
Зіхочаць зорачак агні,
Сярод якіх, як грозны хан
Усеўся месяц-велікан.

Свой жоўтакруглы твар над дахам
Схіляе ён, і поўніць жахам,
Як тыя зорачкі ўгары,
Душу маю аж да зары...

Бяссоньне не дае спакою,
І я шапчу начной парою:
– О сьветлы дзень, хутчэй прыйдзі,
Людзей да працы абудзі!

**ВЕЦЕР З УСХОДУ**

Ці то ўлетку, ці зімою,
Ці то ўвосень, ці вясною
Ўсходні вецер налятае,
Люты холад прабягае.

Гэты вецер жаль разносіць,
Вые, плача і галосіць,
Ён заўжды такой натуры,
Быццам кліча на хаўтуры.

Бачыць люд прыбіты горам,
Што трывае зьдзек і сорам,
Чуе стогн людзей закутых,
Ды сьмяецца зь іх пакутаў.




**ДАМОГСЯ**

Усё жыцьцё рабі, старайся
І лепшай долі дамагайся,
Растрачвай сілу, розум, спрыт,
Каб свой палепшыць дабрабыт.

Калі ж дамогся ты чагосьці –
Прыходзіць сьмерць з касой у госьці:
«Меў новае жыцьцё пачаць?
А трэба, любы, паміраць!»

**НЕ ГЛЯДЗІЦЬ У ЧАРКУ**
*жарт*

Заўважылі сябры аднойчы,
Што Янка п'е, замкнуўшы вочы.
Пытаюцца ў яго: «Чаму ты
Віно п'еш, бы яно з атруты?»

А Янка кажа: «Мне праз чарку
Штодзённа жонка робіць сварку.
Ёй абяцаньне меў я даць –
У чарку больш не заглядаць!»

**НЕ ЗЬБЯГАЙ...**

Не зьбягай, каб зь нястачай растацца
І зь бядой, у заморскую даль:
Будзеш мець там багацьце й палацы,
Ды ня збудзеш свой смутак і жаль.

Там ня знойдзеш ты бацькі і маткі,
Там жыцьцё прамільгне быццам сон...
Лепш трымайся ты роднае хаткі,
Дзе жылі твае продкі спакон.

**ДЗЯДЫ**

На палёх канчаецца работа,
Зь ёю – і сялянская турбота,
Лістапад прыносіць халады
І стары, як сьвет, абрад Дзяды.

Наш народ яго выдатна знае
І памерлых продкаў спамінае:
Запрашае на Дзяды ў адведкі,
Падае найлепшыя наедкі.

Перад гэтым прыбіраюць хаты,
З клецяў дастаюць, хто чым багаты,
Пры стале ім ставяць крэслы й лавы,
Розныя падносяць трункі й стравы.

Трохі адчыняюць вокны й дзьверы,
Каб яны ўвайшлі паводле веры,
Калі ж нейкія бываюць згугі –
Значыць папрыходзілі ўжо духі.

Гаспадар сардэчна іх вітае,
Сесьць за стол сьвяточны запрашае,
Ціха ў хаце ўсе п'юць і ядуць,
Гаману аб прадзедах вядуць.

Па вячэры сьвечку абступаюць
І, пакуль іх духі пакідаюць,
Моляцца, каб духі ім спрыялі
І ня так у змроку сумавалі...

Гэтак людзі моляцца гады
За памерлых продкаў на Дзяды.

*Паэтка **Інга Кузьменка** (нар. 24.04.64), дачка нашага ведомага віленскага мастака Ўладзіміра Кузьменкі, жыве цяпер і працуе ў Швэцыі, у горадзе Мальмё, дзе скончыла ўнівэрсытэт. Па адукацыі яна сацыёляг. Выдала дзьве паэтычныя кніжкі, піша на расейскай, беларускай і швэдзкай мове. Відавочна належыць да паэтычнай школы г. зв. «мэта-мэтафарыстаў». За свае дасканалыя вершы атрымала ў свойчас швэдзкую літаратурную прэмію.*

* * *

Золата, футры, мёд з далёкіх краін.
Жменя за жменяй – хутка насыплем курган.
Гэта – макулатура, асколкі шклін,
мілы дыктатар, мой дарагі тыран,

Заўжды буду помніць, мой цар, як ты
выйшаў насустрач. Назад не было шляхоў.
Ты прынёс мне ў дар бурштын густы.
Што мне рабіць зь ім праз дванаццаць гадоў?

Што мне рабіць зь ім, калі ўжо бязь сіл
ты, войска сабраўшы, павернеш дамоў?
Можа, жыцьцё маё ператворыцца ў пыл
з-пад капытоў тваёй коньніцы, мілы мой.

Можа, я проста засну, паклаўшы сьпярша
пустку пад галаў, і буду спаць.
Дэман адзінаўладзьдзя двойчы два
хутка з чатырох ператварае ў пяць.

Праз дванаццаць гадоў, мой жаніх, мой брат,
ноч нам будзе здавацца даўжэйшай за дзень.
І нічога з назапашанага дабра
Нас ня ўзрадуе. Шкода коней, людзей.

Аднак я заўжды буду помніць, як ты
Змрок перамог і сьвятло прынёс мне ў дар.
Жменя за жменяй – да мяне ўзводзіў масты,
не пакладаючы рук, дванаццаць гадоў, мой цар.

*13. XII. 91.*

*«Дасылаю вам верш, якому ў сілу абставінаў наўрад ці знойдзецца мейсца на старонках айчынных выданьняў...»*

**Юрась Нераток**

***СВАТАЎСТВО***

*І зь нівай роднаю, і з хатаю
(як бы ў пасаг – каб сплавіць з рук)
цябе, задрыпаную, сватае
былы калгасны палітрук.*

*І між хвалебнымі прамовамі
на вуха сват табе вярзе:
«Ён хустку купіць табе новую
І з рынку пернік прывязе...»*

*І сват глядзіць з усьмешкай строгаю!
Калі ўсумнішся спакваля –
Ён тузане за косы доўгія
ці дасьць у рэбры кухталя.*

*«Ну што ж, што твар – чырвонай цэглаю?
Ну што ж, калі паўсюль турма?
Ня трэба ўпарціцца, нягеглая –
і спадняга ў цябе няма!»*

*Жаніх стаіць і пасьміхаецца,
як над халопкаю барон.
І перад сватам выхваляецца,
Якім ёй мужам будзе ён.*

*Што быць яму заўжды свабоднаму
(і не пярэч, калі кірнуў!)
што ён нядаўна брату зводнаму
скулу бяз цацанкаў зьвярнуў.*

*Што гаспадарка – заняпалая,
што дзеці з голаду крычаць...
Ды і ў самога ў ботах ялавых
анучы брудныя тырчаць.*

*. . . . . . . . . . . . . .*

*Так і стаіш, істота рабская,
ці то ў паўсьне, ці ў забыцьці.
Відаць, такая доля бабская:
Хто возьме – за таго і йсьці!*

# ЛЯВОН ВІТАН-ДУБЕЙКАЎСКІ

## ДА 130-ГОДЗЬДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ

Лявона Вітан-Дубейкаўскага, беларускага культурна-грамадзкага дзеяча, інжынера-архітэктара высокай кваліфікацыі, паэта, фальклярыста, можна сьмела залічыць да заслужаных віленчукоў ня толькі таму, што ягоная магіла знаходзіцца на старажытных могілках Росы ў Вільні. Але ж у нашым горадзе Лявон Дубейкаўскі пражыў бязвыезна, прынамсі, два апошнія дзесяцігодзьдзі свайго жыцьця, зь беларускім віленскім асяродзьдзем быў у цесным кантакце яшчэ з гэтак званай «нашаніўскай пары». І хаця лёс кідаў яго па розных краінах, але ж у Вільні ён прыжыўся вельмі трывала. У памяці нашчадкаў ён застаўся й як дзеяч таго асяродзьдзя, што змагалася за незалежнасьць БНР, і як папулязатар беларускай культурнай спадчыны, і як, урэшце, таленавіты дойлід, пабудовы каторага яшчэ сёньня можна знайсьці ў Вільні, на Віленшчыне, у Беларусі й нават па-за іхнімі межамі. Дык ня дзіва, што магілу ягоную пры кожнай нагодзе зь вялікай пашанаю наведваюць прадстаўнікі тутэйшых сьведамых беларусаў, яна згадваецца ў польскім і літоўскім даведніках пра Росы, дзе пазначаныя магілы знаных дзеячоў культуры нашага краю.

Нарадзіўся Лявон Вітан-Дубейкаўскі 7 ліпеня 1969 году ў вёсцы Дубейкава на Мсьціслаўшчыне ў патрыярхальнай шляхецкай сям'і гербу Вітан. (Пачатак роду Дубейкаўскіх паводле архіўных дакумантаў адносіцца да 14 ст.). Пачатковую адукацыю атрымаў у Мсьціслаўскім гарадзкім вучылішчы. На будаўніка вучыўся ў Варшаве ў Школе будаўнічых рамёстваў, скончыўшы якую, заснаваў у Смаленску сваё бюро (1891). Асноўныя ягоныя пабудовы гэтага пэрыяду: цэрквы ў Манастыршчыне й Ярсаве на Смаленшчыне, скарбніца ў Вязьме. У 1894 г. перамогаю ў конкурсе Лявон дамогся права на пабудову мураванага касьцёлу ў Смаленску, а ў 1901 г. — фабрыкі жалезабэтонных вырабаў. Тымчасам ён стала працуе ў рэстаўрацыі: аднаўляе касьцёлы ў Воршы, Мсьціслаўлі, Крычаве, Смалянах, Сьвіслачы ля Беразіны. Тады ж захапіўся беларускай старадаўняй літаратурай, пад уплывам «Дудкі беларускай» Багушэвіча сам пачаў пісаць вершы, марыў пра завяршэньне адукацыі. У 1903 г. пры Інстытуце цывільных інжынераў у Пецярбурзе Лявон склаў экзамен на званьне інжынера-будаўніка. Вярнуўся ў сваё смаленскае бюро, цяпер ужо й дойлідам. Каб канчаткова сцьвердзіцца прафэсыйна, у 1907-1910 гг. навучаецца ў Парыжы, у славутай Акадэміі архітэктуры, і атрымлівае дыплём архітэктара-мастака.



1869 — 1940

З 1910 г. Дубейкаўскі ў Варшаве. Да пачатку Першай сусьветнай вайны ён працуе архітэктарам у вядомым бюро Лільпопа й Янкоўскага. Праектную працу сумяшчае з выкладаньнем будаўнічых курсаў у Тэхнічна-прамысловай школе інжынера Пятроўскага. У 1913 г. закладае ўласнае бюро й даволі пасьпяхова працуе да 1915 г. Сярод тагачасных ягоных пабудоваў: летнік Сталыгваў у Ажарове пад Варшавай, шэраг прыбыткавых дамоў. Неўзабаве ён становіцца сябрам Варшаўскага кола архітэктараў.

Жывучы ў Варшаве, Дубейкаўскі быў актыўным удзельнікам створанага там беларускага гуртка, у склад якога ўваходзілі сярод іншых Гальяш Леўчык, Зоська Верас, Рамуальд Зямкевіч. Наездамі бываў у Вільні, дзе сябраваў з многімі дзеячамі беларускага адраджэньня, каторыя гурталіся вакол «Нашай Нівы». Бываў таксама і ў Пецярбурзе, дзе таксама сустракаўся зь беларускімі дзеячамі, у тым ліку з Вацлавам Іваноўскім. Пра ўражаньне аб Лявоне Вітане-Дубейкаўскім у віленскім асяродзьдзі піша да Зоські Верас Марыся Галубянка: «Дзядзька Лявон, як яго называлі ў Вільні, мне вельмі падабаўся. Ён быў дужа вясёлы, з глыбокім пачуцьцём гумару, меў шырокія погляды».

У гады сусьветнай вайны Вітан-Дубейкаўскі займаўся будаўніцтвам на Полаччыне і ў Арле. Нейкі час жыў у Менску, дзе зблізіўся з дзеячамі, што гурталіся вакол «Беларускай хаткі»: з Фальскім, Смолічам, Максімам Багдановічам, Зоськай Верас, Уладзіславам Галубком. У Менску сустрэў новы 1917 г. Пасьля Зьезду беларускіх арганізацыяў у Менску ў сакавіку 17-га ўвайшоў у склад Беларускага Нацыянальнага Камітэту. У 1918 г., прыняўшы на сябе абавязкі прадстаўніка БНР, паехаў у Варшаву. Але ўжо ў наступным годзе чытае папулярныя лекцыі пра будаўніцтва на Беларускіх настаўніцкіх курсах у Вільні й Горадні. З 1922 г. настала пераяжджае ў Вільню, займаецца архітэктурна-будаўнічымі работамі. Вось пералік некаторых архітэктурных збудаваньняў Лявона Вітан-Дубейкаўскага віленскага пэрыяду: царква старавераў у Відзах (1922), перабудова віленскіх Бернардынскіх муроў пад факультэт мастацтва ўнівэрсытэту — цяпер тут Акадэмія мастацтва (1923), касьцёл у Дрысьвятах і прыватны дом на вул. Славацкага ў Вільні (1924), затым лясьніцтва ў Шумску, дамы ў Кене дый шмат чаго іншага.

У 1925-1926 гг. Дубейкаўскі кіраваў Школай будаўлянага рамяства й разам з вучнямі паставіў паводле сваіх праектаў шэраг цікавых будынкаў. У 1926 годзе пе-

# Усё жыцьцё ...

Мой бацька, сын Яна, родам з Хвінявічаў, што каля Дзятлава. Маці, Аляксандра Сяўрук, зь мястэчка Скідэля. Бацькава маці Юля, дзьве сястры й тры браты Белавусы , усе зь сем'ямі, у 1909 годзе прадалі свае палоскі ды купілі ад Ельскага Праважу нейкіх 400 дзесяцінаў. Да Белавусаў далучыўся Ворда, Хрышчановіч, Сіповіч, Кастантыновіч, Малька, Шлавенец, Шмагіра. Усе ўзялі пазыку ў зямельным банку, усе сплачвалі кожны сваё.

У бацькі было 25 дзесяцінаў зямлі, малыя дзеці й шмат работы. Трымаў парабка, наймітку й пастуха. У 10-ці кілямэтрах маці мела яшчэ тры нежанатыя браты. Яны прыходзілі памагаць малаціць. У 1926 годзе бацька купіў малатарню. У 1928 годзе паехаў у Вільню й набыў амэрыканскую жнівярку. Праца палягчэла й паступова мы самыя давалі рады ўсяму.

Я нарадзіўся ў 1924 годзе, браты мае з 24-га, 26-га й 29-га гг., а сястра з 1934 году. У свойчас усе пайшлі ў школу. Абое бацькі былі пісьменныя й цанілі навуку. Нас ад школы не адрывалі. У 1936 годзе я пайшоў у 7 клясу й пасьля меў намер падацца ў тэхнічную гімназію. Напрыканцы навучальнага году бацька — з намовы а. Сяргея Валынцэвіча — пастанавіў пасладь мяне ў Варшаву, у Праваслаўны Мітрапалітальны Інтэрнат, каб я падгатаўляўся на сьвятара. Маці, даведаўшыся, пачала плакаць. Яна ведала а. Валынцэвіча яшчэ пападзюком із Скідэля і знала папоўскую жаднасьць, не жадала пушчаць мяне ў тую кліку. Ведаючы маю спагаду да іншых, яна асьцерагала бацьку, што й на парахві будзе ўтрымоўваць мяне. Але бацька ўпорста трымаўся свайго намеру й сказаў: «У Варшаву або за плугам!» Я пагадзіўся «ў Варшаву», бо «за плугам» было ніколі ня позна.

Мой нумар у Праваслаўным Інтэрнаце быў 99, і трэба было вышыць яго на ўсіх маіх рэчах. Маці прынцыпова адмовілася, і я сам мусіў іх вышываць. Гэта мне потым не зашкодзіла. У інтэрнаце (1937) было нас нешта над 100, пападзюкі й сялянскія хлапцы. Кошт утрыманьня быў 50 зл. на месяц. Бяднейшым сялянскім юнакам была стыпэндыя, а за школу — 200 зл. на год. Хто добра вучыўся, таму й на навуку была стыпэндыя. Я два гады, з «двойкаю» па польскай мове, пералез у наступную клясу. Хіба таму, што настаўнік старажытнай гісторыі й лаціны быў заступнікам дырэктара гімназіі Лелевэля, і я быў у яго першы па лаціне ня толькі ў клясе, але і ў цэлай школе.

З нашых ваколіцаў было некалькі хлапцоў, з каторымі пазнаёміўся ў Варшаве: Сяргей Васюкевіч зь Юрацішак (з маёй 1-ай клясы) і другаклясьнікі Янка Жамойцін з Клімавічаў каля прыстанку Курган, Майсей Савышанскі з Орлі й Віктар Коска з Вусьця. Апошнія два ўлетку 1938-га падаліся ў БССР — і сьлед прастыў. Зь Янкам жа трымалі камітыву.

У сакавіку 1939 году ўнівэрсытэцкія студэнты зладзілі сьвяткаваньне 25 Сакавіка. Нашыя старэйшыя сябры паклікалі сьведамейшых калегаў на тую таемную імпрэзу. Было гэта недзе на падстрэшшы Хмельнай вуліцы. Рэфэрат чытаў інж. Адольф Клімовіч. Там я набыў кнігу Вінцука Адважнага «Беларускія Цымбалы». Віталь Іванкевіч із старэйшай клясы мае школы таксама быў з намі (цяпер жыве ў Вільні). Быў Мікола Рулінскі, здалёку знаёмы з Наваградка.

Калі ў 1939 годзе Беларуская гімназія зь Вільні пераехала ў Наваградак, я пайшоў туды вучыцца з радасьцяй, што ўжо ня мушу ехаць назад у Інтэрнат. Пераехаўшы зь Вільні, гімназія яшчэ была нашай роднай школай. Дырэктарам быў Барыс Кіт. Настаўнікамі — Аляксандар і Натальля Орсы, Уладзімер Панько, Панічка, Стась Станкевіч, Лазаровіч, Барысаглебскі. Пасьля некалькіх месяцаў Кіта выслалі ў Баранавічы, а на ягонае мейсца пасадзілі нейкага Баржэмскага зь Менску.

Першы год пад Саветамі я ператрываў, а пасьля перайшоў бліжэй да хаты, у Ліду, дзе пражываў мой шчыры сябра Янка Жамойцін. Жыў я насупраць уваходу ў вайсковыя кашары. Недзе зь першых дзён чэрвеня адсюль кожную ноч выяжджалі аддзелы й накіроўваліся на захад. Аднойчы на досьвітку разбудзілі мяне далёкія выбухі. Гаспадар ускочыў з ложка й закрычаў: «Вайна!». Пачалася сумятня. Я з дому прывез закрасы, думаў, што хлеба сьвежага куплю ў Лідзе. Пабег у пякарню, а там хлеб нават і не пяклі, як ведалі, што ўжо ня трэба. Зьвязаў я ўсе свае рэчы ў дзяругу й хада назад на радзіму. Наступнага дня прынесьлі мне позву станавіцца ў войска, але ўжо самыя мабілізатары зьніклі з вачэй. Тут, у Праважы, 22 чэрвеня 1941 году мяйсцовы Дэпутат дапазна разносіў позвы, вызначаючы фурманкі, каб адвезьці змабілізаваных. Пад раніцу спаў я ў гумне. Зайшоў бацька, сказаў, каб змабілізаваных вёз я. Хутары нашыя цягнуліся паўтары кілямэтра, пачалі мы зьбіраць змабілізаваных ад далёкага канца, а калі даехалі да гміны, там ужо нікога не было. Вярнуліся дамоў і пережылі вайну. Бог асьцярог.

З прыходам немцаў палякі захапілі ўладу й адміністрацыю. У 1939 годзе польскія ўрадаўцы, паліцыянты, асаднікі шмыгнулі ў Вільню, дзе за цэлы год (15.06.40 — 22.06.41) саветчыкі ня здолелі прыбраць іх усіх пад сваю «братнюю» апеку. І тады яны саранчою нахлынулі далей апекавацца намі. Хіба ўжо ў 1942 годзе немцы дазволілі нам арганізаваць Самапомач і беларускую мяйсцовую адміністрацыю. І я, каб пазьбегнуць прымусовай працы ў Нямеччыне, стаў на работу ў павятовай управе. А тымчасам Армія Краёва ўзялася вычышчаць «крэсы всходне» ад сьведамага беларускага актыву, і мне ўжо небясьпечна было заставацца ў павятовай управе. Пераехаў я ў Ліду, дзе мужам даверу быў Адольф Клімовіч, каторы і ўладзіў мяне там.

Напачатку ліпеня 1944 году фронт націснуў, і мы невялікаю групай падаліся на захад. Канец вайны захапіў нас у ваколіцы Рэгэнсбургу. Амэрыканцы дазвалялі ўсім уцекачом наладжваць як грамадзкія, гэтак і рэлігійныя арганізацыі. Ужо ў 1946 годзе настаўнікі нашыя (Орсы, Станкевічы) адчынілі гімназію. Акупацыйныя ўлады рэквізавалі матар'ял, і мы збудавалі сваю царкву. Былі два беларускія лягеры ў ангельскай і два ў амэрыканскай зоне. Кампазытар Куліковіч стварыў тэатральную групу, рэгэнты арганізавалі хоры. Моладзь злажыла скаўтынг. Украінцы, балтыйцы й нашыя не хацелі варочацца ў савецкі «рай». А палонныя «доблестной Красной» паехалі на «родину» ды апынуліся ў Гулагу.

Ужо ў 1949 годзе бяздомныя пачалі рушыць за мора. Найбольш прыехала сюды, у ЗША, наступна ў Аўстралію, Паўдзённую Амэрыку. Я ў лютым 48-га пабраўся шлюбам з Аленаю Герасімовіч зь вёскі Волі з-пад Івацэвічаў. У красавіку 49-га ў нас нарадзіўся сын Лявон. А 27 сакавіка 1950 году прыплылі мы ўсёй сям'ёй да Новага Ёрку. Пасьля Эўропы горад зьдзівіў нас вулічным сьмецьцем і брудам. У Філядэльфіі, 200 кілямэтраў на паўдзенны захад, жыла ўдава дзядзькі Алены, куды мы й падаліся. Горад быў шмат меншы, але ахайнейшы. Там жыло шмат беларусаў-эмігрантаў зьперад Першай сусьветнай вайны. Усе яны трымаліся разам, але большыня зь іх абмаскалілася. Сват бацькі Алены Гойшык, які жыў 40 кілямэтраў ад Філядэльфіі, прыехаў да нас у адведкі. А мы сядзелі без работы. У мястэчку Гойшыка была

рабудаваў сваю ўласную сядзібу на Пагорнай вуліцы. Пазьней кіраваў аднаўленьнем Франьцішканскага кляштару на Троцкай вуліцы, уніяцкага манастыра ў Друі, праектуе кляштар у Непаклянаве ля Варшавы. Асабліва варты ўвагі комплекс каапэратыўных жылых дамоў на Антокалі непадалёк касьцёла Пятра й Паўла ў Вільні. Як архітэктар Лявон Вітан-Дубейкаўскі вылучаўся сваім новым мэтадам апрацоўкі дрэва, арыгінальнымі драўлянымі пабудовамі (як той самы дом лясьніцтва ў Шумску ці касьцёл у Дрысьвятах).



Магіла Л.Вітан-Дубейкаўскага на Росах

Лявон Вітан-Дубейкаўскі быў жанаты з карэннай віленчанкай нямецкага паходжаньня Юльянай Мэнкэ (Кветкай Вітан). Яна, ейныя сястра й браты бралі рупны ўдзел ў тагачасным адраджэнскім беларускім руху. І сам Лявон супрацоўнічаў у Беларускім інстытуце гаспадаркі й культуры, быў сябрам Беларускага каапэратыўнага таварыства «Пчала», уваходзіў у склад Камісіі дапамогі беларускай студэнцкай моладзі. Чытаў публічныя лекцыі й рэфэраты зь беларускага дойлідзтва. Апошнія гады запісваў беларускія прыказкі, напісаў працу «Эвалюцыя і рэформа дзераўлянага будаўніцтва» (засталася ў рукапісе — ЦБАН Літвы). Паэтычнай творчасьцю займаўся толькі ў маладыя гады.

Памёр Лявон Вітан-Дубейкаўскі ў 1940 годзе. На надмагільным камяні надпіс: «Ня сумуйце, як тыя, што надзеі ня маюць!»

**Лявон Луцкевіч**

---

сталёўня, куды ён нас і забраў. Назаўтра мы ўжо мелі працу.

У жніўні 1950 году ў нас нарадзіўся другі сын Юрка, праз два гады, у сьнежні 52-га, нарадзілася дачка Шура, а яшчэ за два гады, у кастрычніку, малодшы сын Віктар. Работа йшла добра, працаваў часам і 6 дзён на тыдзень. Сяды-тады траплялa падвойная «шыфта»: за надлічбовыя гадзіны (нармальна — 40 гадз. на месяц) плацілі паўтары стаўкі. Маці Алены жыла блізка й памагала нянчыць дзяцей, а сама Алена хадзіла на хатнюю работу, хоць на пару гадзінаў у дзень. У чэрвені 1953 году купілі сваю хату з банкаваю пазычкаю 5 % ў год. Праз сем гадоў выплацілі тую пазычку й купілі ежджаны самаход. Неўзабаве Алена пайшла працаваць на фабрыку фармацэўтычных апакункаў.

Гэтак я каваў сталь 33 гады, пакуль (пасьля 200-гадовага йснаваньня) фабрыку не зачынілі. Алена 30 гадоў працавала на сваёй. Мне пашчасьціла даць дзецям вышэйшую асьвету, а самому атрымаць эмэрытуру. Усе на сваім хлебе, у сваіх хатах. Лявон прафэсаруе ў вышэйшай школе, Віктар вучыцца ў сярэдняй, Шура гаспадыніць у сваёй хаце. Абавязак наш адносна дзяцей мы з Аленай выканалі, нават лепш за бальшыню роджаных тут пакаленьняў зь імігрантаў, асабліва з Усходняй Эўропы. Бо мы, прыехаўшы пасьля вайны, былі ўжо ўсьвядомленыя аб важнасьці асьветы й нацыянальнай самасьвядомасьці.

Канчаючы, прашу даравацьмаю споведзь і непасьлядоўнае апісаньне свае адысэі з малой літары. Ад пачатку ліпеня да палавіны жніўня пякло ў нас на 35 градусаў із хвосьцікам ды 80-85 % вогкасьці, а дажджу ні кроплі! Паліваць абмежавалі ўвечары з 5 да 7 гадзінаў. Агароды пасохлі, а трава выглядае, як папялішча. Мінулы тыдзень два разы пакрапіла, і ўжо прырода пачынае пацягвацца, як мы над ранам.

У Вільні я быў толькі раз, у 37-ым, калі здаваў экзамен, каб прынялі ў той самы Праваслаўны Інтэрнат, што ўладжваў нас у варшаўскія школы. Адміністрацыя Інтэрнату была ў руках Міністэрства асьветы й рэлігіі Польшчы, а ўзгадаваньне — пад апекаю Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, што азначала афіцыйную польскую мову. Лекцыі славянскай мовы, царкоўнага сьпеву, тыпікону вяліся па-польску. Службы й сьпевы — стараславянскай. Дырэктарам быў змаскалены беларус Пратасэвіч, у капліцы павучаў нас на расейшчыне. Украінцы, Ленчэўскі й Храшчэўскі, павучалі нас па-ўкраінску. Нашыя сьведамыя айцы, архім. Філяфэй Нарко зь Ільлі, Мікалай Верабей, Зноска зь Пінску вучылі на роднай мове. Мы, бурсісты, усе камунікаваліся й былі ў прыязнай, брацкай камітыве. Спатканьне з украінцамі-валынянамі ўзмоцніла ў нас, захалусных беларусаў, у самасьвядомасьці, чаго ня змыла й БССР.

*24 жніўня 1999 г.*

**Мікола Грэбень**

*Філядэльфія*

---

# Дэмакратыя – беларускі варыянт

*Што ап'яняе мацней ад віна?*
*Коні, жанчына, улада, вайна...*

З гэтых чатырох узбуджальных сродкаў карэнным зьяўляецца ўлада. Улада элемэнтарна вырашае праблему жанчынаў і коней. Яна ж забясьпечвае й вайну: хочаце – чачэнскую, хочаце –косаўскую (балканскую), хочаце – трэцюю сусьветную. Прынамсі, менавіта ў гэтым напрамку ўзмоцнена працуюць многія палітыкі краінаў сьвету. Ім неспакойна, ім не хапае для поўнага шчасьця штодзённага паху чалавечай крыві.

Але як захапіць і ўтрымаць уладу?

Яе дабраахвотна ніхто не аддае. (Прашу прабачэньня ў Нэльсана Мандэлы, які ў імя сваёй Радзімы, у зэніце сваёй палітычнай дзейнасьці, дабраахвотна адмовіўся ад улады. Пакланяючыся яму, я захапляюся народам, каторы ўзгадаваў такога палітыка... Аднак выключэньне толькі пацьвярджае правіла). Зноў жа, адзін чалавек атрымаць уладу ня ў сілах, няхай сабе будзе з царом у галаве. Дзеля гэтага патрэбныя аднадумцы. Людзі гэта зразумелі даўно й навучыліся з гэтага атрымоўваць выгоду. Яны заснавалі інстытут палітычных партыяў. Палітычная партыя – гэта група аднадумцаў, аб'яднаных арганізацыйна, каторая атрымала дазвол ураду займацца спэцыфічным відам дзейнасьці, а, менавіта, прапанаваць сябе грамадзтву ў якасьці «слугі», г. зн. – кіраваць грамадзтвам. Кожная партыя гучна крычыць народу: «Хачу тваім слугою стаць!» і хітра, ледзь чутна дадае: «Каб табою кіраваць».

Усе партыі прапануюць сябе ва ўслужэньне народу, прываблiваючы яго сваімі праграмамі, канцэпцыямі, тэорыямі, абяцаючы яму роскві і дабрабыт. Як жа разабрацца канкрэтнаму чалавеку (пралетарыю, уласьніку, чыноўніку), якая з партыяў, рэалізуючы свае інтарэсы (атрымоўваючы ўладу), будзе аб'ектыўна працаваць на карысьць грамадзтва?

Калі грамадзтва правільна выбрала сабе ва ўслужэньне партыю, яно паступова пачынае адчуваць паляпшэньне свайго дабрабыту. У супрацьлеглым выпадку будзе шмат абяцанкаў, рэляцыяў аб перамогах на працоўным фроньце й несупыннае пагоршаньне ва ўсіх сфэрах сацыяльнага жыцьця. Тады грамадзтва шукае сабе новага «слугу» (партыю). Вось дзеля гэтага цывілізаванае грамадзтва й ініцыіруе ўтварэньне партыяў, іхнюю канкурэнцыю, іхнія тэарытычныя напрацоўкі, шырокае абмеркаваньне дзейнасьці партыяў, – каб заўжды мець у запасе іншы варыянт разьвіцьця.

Больш 150 гадоў назад «Маніхвэст камуністычнай партыі» абвесьціў усяму сьвету, што камуністычная партыя прысвойвае сабе манапольнае права быць барацьбітом за шчасьце ўсяго працоўнага люду плянэты на высновах тэорыі клясавай барацьбы й пралетарскага інтэрнацыяналізму. Пасьля кастрычніцкага перавароту ў 1917 годзе ў камуна-расейскай імпэрыі гэтая манаполія была зрэалізаваная простым фізычным зьнішчэньнем усіх астатніх партыяў Расеі. А каб нікому і ў галаву не прыйшло, што гэта ёсьць элемэнтарнае парушэньне правоў чалавека, што гэта ёсьць злачынства, – права кампартыі быць манапольным змагаром за шчасьце працоўнага люду было замацаванае ў Канстытуцыі СССР. У 6-ым артыкуле, каторы павінен быў ведаць кожны школьнік, сцьвярджалася: «Кіруючай і напраўляючай сілай савецкага грамадзтва, ядром ягонай палітычнай сыстэмы, дзяржаўных і грамадзкіх арганізацыяў зьяўляецца Камуністычная партыя Савецкага Саюзу. КПСС існуе для народу й служыць народу».

Тлумачачы гэтае «эпахальнае» акрэсьленьне, генсэк Брэжнеў заявіў, што камуністы не для таго бралі ўладу, каб яе каму-небудзь аддаваць. Каб такое сказаць, трэба, натуральна, быць п'яным не ад віна, а ад улады. Улада камуначынавецтва, ідэалягічным выразьнікам і верхавінай якога была кампартыя, была адкрыта замацаваная гэтым артыкулам у Канстытуцыі, і любая нязгода з камуначынавецтвам разглядалася, як дзяржаўнае злачынства.

Захапіўшы ўладу й імкнучыся яе ўтрымаць, можна канстытуцыйна замацаваць кожнае чалавечае глупства. Але гэта ніяк ня выявіцца на законах прыроды. Камуначынавецкая палітычная сыстэма пацярпела поўны крах у працэсе ейнага эканамічнага спаборніцтва з капіталістычнай, каторая аказалася больш адпаведнай фундамэнтальнаму прынцыпу самаарганізацыі матэрыі. Савецкі Саюз лопнуў як мыльная бурбалка. Занадта яскравай была неадпаведнасьць штодзённай ідэалягічнай балбатні й рэальных эканамічных абставінаў нават для самага апалітычнага пралетар'яту Беларусі. Пануючае савецкае чынавецтва (клан) у Беларусі вымушанае было пайсьці на ўступкі пралетар'яту – прыпыніла нават на нейкі час дзейнасьць свайго «баявога авангарду», Камуністычнай партыі Беларусі.

На палітычнай арэне Беларусі зьявілася шмат партыяў. Але большасьць зь іх – гэта партыі таго самага чынавецкага апарату і кіруюць імі былыя савецкія чыноўнікі, каторых цалкам задавальняе камуністычная ідэалёгія, што ўкаранялася ў душы людзей на працягу 4-ох пакаленьняў і зьяўляецца пануючай на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Лідары гэтых партыяў вядуць барацьбу за вышэйшую ўладу ў дзяржаве, за права бескантрольнага карыстаньня багацьцямі краіны. На палітычнай арэне зноў узьніклі ажно дзьве кампартыі, што зьяўляецца ідэальнай сытуацыяй для панаваньня камуначынавецтва. Папершае, у беларускага насельніцтва ўтвараецца ілюзія, што ў Беларусі, як у кожнай іншай цывілізаванай краіны, ёсьць шматпартыйная сыстэма (а гэта пакашчык дэмакратыі й свабоды). Па-другое, панаваньне чыноўнікаў ніхто не аспрэчвае, барацьба за вышэйшую ўладу йдзе толькі ў гэтай сацыяльнай групе. У гэткіх умовах ужо не партыя кіруе чынавецтвам, а чынавецтва кіруе партыямі, ставячыся з прыхільнасьцю да тых партыйных дзеячоў, каторыя найбольш поўна выконваюць ейны сацыяльны заказ.

Толькі невялікая колькасьць беларускіх партыяў у сваіх праграмных дакумантах заявіла аб ідэі нацыянальнага адраджэньня беларускае нацыі, як падмурку росквіту Рэспублікі Беларусь. Як правіла, ініцыятарамі ўтварэньня гэтых партыяў сталіся вучоныя прыродазнаўчых навукаў, літаратары. (Беларуская нацыянальная партыя ёсьць адзіная партыя, каторая адкрыта аб'явіла нацыяналізм вышэйшай чалавечай каштоўнасьцю). Да гэтай групы адносяцца, напрыклад, Сялянская ды Экалягічная партыя, якія падымаюць глябальныя пытаньні йснаваньня чалавечай цывілізацыі. Гэтая група партыяў працуе безь ніякае фінансавае падтрымкі, ва ўмовах інфармацыйнай блякады, разьлічваючы толькі на асабістыя кантакты сяброў партыі з насельніцтвам.

Менавіта вышэйазначаная група партыяў найбольш церпіць ад крытыкі, хутчэй, зьдзеку сацыёлягаў і палітолягаў самых розных адценьняў. Якіх толькі ярлыкоў ім не панавешвалі: «карлікавыя», «дывановыя клюбы», «палітычныя тусоўкі», «не маюць пэрспэктывы», «нежыцьцяздольныя», «ня маюць сваёй сацыяльнай базы». (Дарэчы, нават такім чынам, даючы інфармацыю, можна ініцыіраваць мысьленьне людзей. А гэта ўжо добра). Менавіта супраць гэтых партыяў пачалі змагацца камуна-чынавецкія Вярхоўныя Саветы:

1990 – склад партыі ня менш 100 чал.

1994 – склад партыі ня менш 500 чал.

1999 – Дэкрэт Прэзыдэнта РБ N2, паводле якога склад партыі павялічваецца да 1000 чал. плюс плойма ўсялякіх умоваў і агаворак, каторыя зводзяцца да аднаго: лаяльнасьць сыстэме, жорсткі кантроль дзяржавы над дзейнасьцю партыяў.

Гэта зразумела. Для панаваньня чынавецтва такія партыі найбольш шкодныя. Менавіта яны могуць калі-небудзь адабраць уладу. Менавіта яны зьяўляюцца мікрацэнтрамі, вакол якіх павольна, але пачынаюць кансалідавацца людзі, асэнсаваўшы тупіковасьць палітыкі дзяржавы. Гэтыя партыі спакойна займаюцца сацыяльнай адукацыяй народу, што непрыкметна, але безупынна разьядае манапольнае панаваньне камуністычнай ідэалёгіі. І Дэкрэт N2 – гэта нэрвовае рэагаваньне пануючай вярхушкі на рэаліі працы гэтых партыяў. Пакуль ня позна, іх трэба зьліквідаваць, а не дык гульня ў дэмакратыю, у шматпартыйнасьць могуць прывесьці да незваротных сацыяльных наступстваў, каторыя акажуцца сумнымі для бязьмежнага панаваньня былых савецкіх чыноўнікаў і іхніх пасьлядоўнікаў. Вось чаму для гэтых партыяў створана шмат непераадольных чыноўніцкіх перашкодаў.

З другога боку, Дэкрэт стаўся лякмусавай паперкай для лідэраў «салідных» партыяў. Многія зь іх станоўча выказаліся да новаўвядзеньня, так ці інакш падтрымалі Дэкрэт. Цікава, чаму гэта нашыя дэмакратычныя лідары салідарныя з антыдэмакратычным Дэкрэтам? Проста яны ня супраць установіць сваю манаполію на палітычнай арэне й як агню баяцца палітычнай канкурэнцыі. Зь дзяржавай жа яны пакуль што могуць дагаварыцца. А вось «дывановыя» партыі могуць наўпрост заявіць аб іхнім палітычным убостве. І таму Дэкрэт якраз да месца. Нашыя «вялікія дэмакраты» не разумеюць, што Дэкрэт наўмысна літуе іхнія партыі. А што вы, панове, будзеце рабіць, калі праз год зьявіцца дэкрэт пра бар'ер у 10 тыс. чалавек?

*Сустаршыня БРП*

**Валеры Арцішэўскі**

*Працяг будзе*

# Сямён Шарэцкі пра...

## ... Лукашэнку, ягоных падтрыманцаў і прэзыдэнцкія паўнамоцтвы

Уся справа ў тым, што гэты чалавек, наогул, не адчувае сябе ні расіянінам, ні беларусам, – нікім. Ён дыктатар, і ўсё гэтым сказана. А дыктатар заўжды ёсьць хворы чалавек, у якога няма ніякае лініі, няма ніякіх абгрунтаваных імкненьняў: яны сёньня адныя, заўтра іншыя.

На Захадзе перабольшваюць уплыў Лукашэнкі ў самой Беларусі. Ён трымаецца на штыках і матар'яльнай дапамозе з Расеі. Няпраўда, што Лукашэнку падтрымлівае большасьць беларускага насельніцтва. Інакш ён пайшоў бы на выбары, а ён іх баіцца. Ці задумваліся вы над тым, што на чале Міністэрства замежных справаў РБ стаіць палкоўнік ФСБ Расеі Урал Латыпаў? Як вы думаеце, чаму Лукашэнка паставіў на гэтую пасаду расейскага палкоўніка, а не беларуса? Таму што беларуса ён бы ўжо не знайшоў для сваёй службы. У Савеце Міністраў беларускай навукай і культурай камандуе палкоўнік расейскай арміі Замяталін, каторы мае знакамітую ў КДБ прафэсію «правакатар па палітычных пытаньнях» – гэта афіцыйная назва. Міністрам Міністэрства ўнутраных справаў РБ пастаўлены генэрал расейскай арміі Сівакоў, Міністрам абароны – генэрал Расеі Чумакоў... Дык пра якую падтрымку беларускага народу можна казаць? Лукашэнка ж баіцца беларускага народу, акружае сябе расейцамі. Больш за тое, нават у СНД інтарэсы Беларусі прадстаўляе палкоўнік расейскай арміі Посахаў. Гэта ж ідзе непрыхаваная анэксія Беларусі. Як бачыце, на Беларусі цяпер пануе акупацыйны расейскі рэжым, ад якога апазыцыйныя сілы й хочуць пазбавіцца. Бяз гэтага Беларусь ніколі не станецца дэмакратычнай дзяржавай.

Сёньня, вы толькі падумайце, апазыцыйнымі ў стаўленьні да Лукашэнкі партыямі зьяўляюцца практычна ўсе беларускія партыі, якія ня створаныя ягонымі структурамі ды не ўтрымоўваюцца на іхнія сродкі. І БНФ, і кампартыя, – усе ў адным шэрагу ў змаганьні з рэжымам за незалежнасьць Беларусі. Канечне, у апазыцыйных партыяў ёсьць разыходжаньні наконт будучага ладу Беларусі, але сёньня яны ўсе адзіныя ў тым, што Беларусь павінная стацца незалежнай, дэмакратычнай, пазбаўленай дыктатарскага рэжыму.

Я паводле Канстытуцыі 1994 году зьяўляюся Старшынёю Вярхоўнага Савету РБ. Паводле той самай Канстытуцыі, з 21 ліпеня, калі закончыўся тэрмін прэзыдэнцтва спадара Лукашэнкі, паўнамоцтвы прэзыдэнта Беларусі перайшлі да мяне. Гэта 105 артыкул Канстытуцыі РБ. Лукашэнка выбіраўся на 5 гадоў, 20 ліпеня 1994 году ён прымаў прысягу і вось таму тэрмін ягонага прэзыдэнцтва скончыўся. У выпадку, калі ўтвараецца вакансія пасады прэзыдэнта, ягоныя паўнамоцтвы пераходзяць да Старшыні ВС. Я не раблюся прэзыдэнтам, але паўнамоцтвы прэзыдэнта пераходзяць да мяне. І гэта да прынясеньня прысягі нанова абраным прэзыдэнтам.

## ... падпісаньне Звароту, ягонае значэньне

Гэты дакумант падпісаны таму, што згодна Канстытуцыі 1994 году прэзыдэнт Лукашэнка стаў нелегітымным і нелегітымнымі сталі ўсе ягоныя структуры. Таму натуральна, што й спн. Івонка Сурвілла, і сп. Радзім Гарэцкі, і сп. Станіслаў Шушкевіч сабраліся й падпісалі Зварот, у якім зафіксавалі гэты факт. Там таксама зафіксавана, што прэзыдэнцкія паўнамоцтвы часова пераходзяць да мяне, а паўнамоцтвы Старшыні ВС да майго намесьніка Віктара Ганчара. Больш таго, мы зьвярнуліся да беларускай і сусьветнай грамадзкасьці, да ўрадаў і парляментаў дэмакратычных дзяржаваў, каб яны спрыялі ўсталяваньню ў Беларусі дэмакратычнай, незалежнай, прававой дзяржавы, як гэтага й патрабуе Канстытуцыя РБ. Падпісанты гэтага дакуманту зафіксавалі тое, што яны прытрымліваюцца канстытуцыйных нормаў і патрабаваньняў, і паставілі свае подпісы з нагоды гэтага. Лукашэнка цяпер мае справу з апазыцыяй ня толькі ў Беларусі: падпісаны намі дакумант сьведчыць пра тое, што ўсе беларусы сьвету, дзе б яны не жылі, сёньня ў апазыцыі рэжыму, які стварыў Лукашэнка, – як да нелегітымнага, неканстытуцыйнага, як да антынароднага, нарэшце.

## ... магчымыя перамовы з Лукашэнкам і фармаваньне новага ўраду

Мы некалькі разоў зьвярнуліся спачатку да прэзыдэнта Лукашэнкі, а затым да грамадзяніна Лукашэнкі (пасьля 20 ліпеня), каб сесьці за стол перамоваў і мірным шляхам вырашыць канфлікт выканаўчай улады, каб вывесьці рэспубліку з таго тупіка, куды яе завёў грамадзянін Лукашэнка. Сапраўды, з аканчаньнем прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі скончыўся тэрмін паўнамоцтваў ураду, ім назначанага. Пакуль што, аднак, ніякіх перамоваў няма. Ёсьць толькі адныя размовы пра перамовы. Лукашэнка ня йдзе на перамовы. Ён хоча, каб яго спачатку прызналі, як прэзыдэнта, а потым ён будзе размаўляць. Але пра што тады можна гаварыць? Узурпатар хоча, каб яго прызналі законным прэзыдэнтам! Ён быў ім, у яго быў час, а зараз зь ім могуць размаўляць, як толькі з грамадзянінам Лукашэнкам, які незаконна знаходзіцца пры ўладзе. Мы гатовыя размаўляць зь ім, як увайсьці ў канстытуцыйнае поле, а не як парушаць Канстытуцыю.

У бліжэйшы час будзе сфармаваны новы ўрад (работа фармаваньня ўраду ўжо распачатая), будуць прызначаныя новыя выбары. Канечне, Лукашэнка таксама мае права ўдзельнічаць у гэтых выбарах, ён жа вельмі шмат гаворыць, што яго нібыта падтрымлівае беларускі народ. Чаму ж ён ухіляецца ад выбараў? Бо вярхоўны Савет ужо прызначаў выбары, і Лукашэнка замест таго, каб пайсьці на іх і на законных падставах перавыбрацца, – выбары гэтыя заблякаваў, сарваў і сваёй кандыдатуры ня высунуў. Відавочна, не пераканаы ў тым, што яго народ зноў абярэ прэзыдэнтам. Бо пяці гадоў было цалкам дастаткова, каб паглядзець на ягоныя здольнасьці і ўчынкі.

## ... становішча ў Беларусі

Я думаю, што ня можа так быць доўга, каб беларускі народ сам у сябе ў хаце сваю беларускую мову абараняў праз Таварыства беларускай мовы. Не распаўсюджваў, не разьвіваў, а абараняў! Сёньня сапраўды становішча жахлівае. У Менску няма ніводнай ня толькі вышэйшай, але й сярэдняй навучальнай установы, якая б працавала на беларускай мове.

Сёньня ў Беларусі, сорамна казаць, за 1,5 % малаком трэба стаяць у чарзе. І гэта тая самая Беларусь, каторая ня так даўно вывозіла й малако, і мяса. Сёньня за месячную зарабатную плату ў Беларусі можна купіць 2,5-3 кг кілбасаў. Вось да чаго даведзеная краіна.

У Беларусі пануе цалкавітае бяспраўе. Указам прэзыдэнта (былога ўжо цяпер) створаная адумыслова антыканстытуцыйнае ваеннае падразьдзяленьне з правам «врываться в любое помещение» – гэта аддуль я ўзяў гэтыя словы. Урывацца ў любое памешканьне, у кожную кватэру, праводзіць вобыск, затрымліваць кожнага, саджаць за краты, а ўжо потым высьвятляць, за што... І такіх людзей ужо сядзіць нямала, у тым ліку й былы прэм'ер-міністар сп. Чыгір, былы міністар с/г сп. Лявонаў, сядзяць два дэпутаты ВС Клімаў і Кудзінаў. Пэрыядычна, калі праводзяцца дэманстрацыі, арыштоўваюцца дзясяткі людзей. Почасту людзей зьбіваюць толькі праз тое, што яны размаўляюць па-беларуску. Вось да чаго давездзеная рэспубліка грамадзянінам Лукашанкам і вось чаму ён ухіляецца ад выбараў, працягваючы ўтрымліваць уладу. Па-сутнасьці, ён яе ўзурпіраваў.

Цяжка меркаваць, якім будзе далейшы ход падзеяў у Беларусі. Бо ёсьць другі бок, каторы з дапамогаю некаторых расейскіх палітыкаў працягвае ўтрымліваць уладу. Таму ён залежыць ад таго, як сябе далей павядзе Расея, як павядзе сябе далей Лукашэнка, наколькі хутка беларусы зразумеюць, што трэба выйсьці ўсім на барацьбу супраць правячага рэжыму.

## ... аб'яднаньне з Расеяй

Нядаўна я падпісаў Заяву, у якой патлумачыў, што ўсе падпісаныя пасьля 20 ліпеня Лукашэнкам дзяржаўныя дакуманты неправамоцныя. Гэта асабліва важнае таму, што Лукашэнка ня толькі працягвае сілай утрымліваць выканаўчую ўладу, але й працягвае сваю гульню з гэтак званым «аб'яднаньнем Беларусі з Расеяй», дзеля таго, каб потым стаць прэзыдэнтам вялікай дзяржавы. Усё гэта можна было б прыняць як жарт, маўляў, як гэта Лукашэнка можа стацца прэзыдэнтам Расеі, – калі б у самой Расеі не было сілаў, каторыя зацікаўленыя ў тым «аб'яднаньні». Такімі сіламі, па-першае, зьяўляецца ўся камуністычная партыя Расеі. На такім самым пункце гледжаньня, гэта значыць – шавіністычным, стаіць Бабурын і ягоны рух, шавіністамі паводле мысьленьня зьяўляюцца Прымакоў і Лужкоў. І таму тут не да жартаў. Справа ў тым, што Лукашэнка ёсьць дыктатар згодна сваёй натуры. Ён адкрыта заяўляе пра тое, што ягоная задача адрадзіць былую савецкую імпэрыю, прычым, што самае страшнае, з тымі самымі казарменнымі парадкамі, каторыя йснавалі ў СССР у 30-ыя ды 50-ыя гг. Калі да гэтага дадаць, што Лукашэнка паводле сваёй натуры належыць да тыпу гэтак званых «эліптоідных кіраўнікоў», хворых людзей (да іх належылі Гітлер, Сталін, Мусаліні й належыць Садам Хусэйн ды Мілошавіч), дык гэта робіцца двойчы небясьпечным. Бо ў Расеі, як мы ведаем, назапашана вельмі шмат ракетаў, ядзернай зброі. Заўважце, што Лукашэнка адзіны кіраўнік дзяржавы, каторы езьдзіў да Мілошавіча дзеля таго, каб яго падтрымаць. Уявіце сабе, што магло б быць, калі б на момант Балканскай вайны Лукашэнка ўжо распараджаўся ядзерным арсэналам Расеі. Наўрад ці ён паехаў бы да Мілошавіча з пустымі рукамі. Ён жа й амэрыканскія шары зьбіў ні за панюх табакі.

## ...літоўска-беларускія дачыненьні

Калі паглядзець на нашую гісторыю, дык мала можна знайсьці дзе вось такія два суседнія народы, якія б ніколі не ваявалі паміж сабою, і надта моцна не спрачаліся. А вось тое, што яны жылі ў адной дзяржаве, знаходзілі ўзаемапаразуменьне, нас сягоньня абавязвае, і літоўскіх прадстаўнікоў таксама, працягваць жыць у такім сяброўстве.

Мы ніколі не лічылі нашую мяжу нейкай непраходнай. Яна заўжды была ўмоўнай. Доўгі час нашыя народы жылі ў адной дзяржаве. Я ўдзячны парляментарыям Літвы, каторыя заўсёды нас падтрымлівалі на ўсіх міжнародных форумах, як прадстаўнікоў адзінага праўнага й заканадаўчага воргану Беларусі.

Я думаю, што для літоўцаў таксама патрэбная Беларусь дэмакратычная, і ўсё тое, што Літва зробіць для беларусаў Літвы, дапаможа й нам, беларусам у Беларусі, якія сёньня перажываюць дыктатуру, змагаца з гэтай дыктатурай, усталяваць дэмакратычны лад. Мы таксама хочам адчуваць сябе ў адзінай эўрапэйскай сям'і.

Літоўскія кіраўнікі, слава Богу, разумеюць, што будзе, калі ўсе тыя думкі, каторымі жыве Лукашэнка, зьдзейсьняцца. Гэта азначае, што заўтра расейскія ракеты зь ядзернымі боегалоўкамі апынуцца ў Ашмянах, у 50 км ад Вільні, і на Бузе – у 150 км ад Варшавы. А Польшча ўжо ў НАТА. І Літва туды імкнецца. Гэта ж якая пагроза вайны. Тым больш, што ў адрозьненьні ад кіраўнікоў НАТА, з усходняга боку на чале ваеннай машыны будзе стаяць такі цемрашал, як Лукашэнка.

## ... міжнародную падтрымку Беларусі

Без падтрымкі міжнародных арганізацыяў, заходніх дэмакратыяў, наша апазыцыя не магла б так эфэктоўна весьці барацьбу за незалежную Беларусь, усталяваньне дэмакратычнага ладу ў ёй. Ходзіць пра тое, што адразу ж пасьля дзяржаўнага перавароту, які зьдзейсьніў Лукашэнка з сваім акружэньнем пад выглядам гэтак званага «рэфэрэндуму», наша заява пра незаконнасьць гэтага рэфэрэндуму была падтрыманая шмат якімі арганізацыямі й большасьцю краінаў. Можна сказаць, усімі краінамі Эўропы апрача асобных палітыкаў Расеі. Бо і ў самой Расеі мы маем падтрымку, напрыклад, нас падтрымоўвае «Правое дело».

Дзеля таго каб зь Беларусьсю не атрымалася такая самая трагедыя, як зь Югаславіяй, трэба апярэдзіць разьвіцьцё Лукашэнкі, як дыктатара. А зрабіць гэта вельмі проста. Як у свойчас Мілошавіч без падтрымкі Расеі ня мог бы разьвіцца ў гэткага дыктатара, каторы прынёс столькі бедаў ня толькі на Балканах, а і ўсяму сьвету, – гэтак і Лукашэнка ня можа йснаваць як кіраўнік Беларусі нават два месяцы без падтрымкі Расеі. Я, калі размаўляю з заходнімі дыпляматамі, заўжды стаўлю пытаньне: «Навошта трэба было глядзець праз пальцы на той факт, што Расея ўскормлівае Мілошавіча, а затым бамбіць Югаславію, замест таго, каб у свойчас спыніць дыктатара ад зладзействаў?» Чаму гэты трагічны факт ня стаўся ўрокам для заходніх дэмакратыяў, каторыя цяпер праз пальцы глядзяць на тое, што творыцца ў Беларусі? Чаму яны даюць грошы Расеі, нягледзячы на тое, што Расея гэтымі грашыма (амэрыканскімі, нямецкімі, францускімі) ўскормлівае Лукашэнку? Неабходна, каб заходняя дапамога Расеі ўвязвалася з тым, што яна ня будзе памагаць дыктатарскаму рэжыму ў Беларусі. У дачыненьні Мілошавіча гэта зрабілі толькі пасьля таго, як бомбамі разбурылі ўсю эканоміку Югаславіі, калі загінула столькі людзей. Былы расейскі прэм'ер Сьцяпашын змушаны быў сказаць у Парыжы, дзе рашалася пытаньне скасаваньня расейскіх пазыкаў, што ён і ягоны ўрад ня будуць падтрымліваць Мілошавіча. А чаму б ужо цяпер, фінансуючы Расею, не паставіць пытаньне аб тым, што яна ня будзе падтрымлдіваць Лукашэнку? Тым больш, што зь нядаўняга часу Лукашэнка ў адрозьненьні ад Мілошавіча ня мае законных паўнамоцтваў. Я часам са сьлязьмі на вачох пытаюся ў заходніх дыпляматаў: «Няўжо вам спадабалася бамбіць чужыя краіны? Чаму вы спачатку дапусьцілі дыктатуру ў Югаславіі, потым разбамбілі яе, і толькі цяпер прымусілі Расею адмовіцца ад падтрымкі гэтага цемрашала?» Мы зацікаўленыя, каб Беларусь мірным шляхам вярнулася ў канстытуцыйнае поле й абяцаем стацца актыўнымі будаўнікамі дэмакратычнага эўрапэйскага дому. І тут трэба мець на ўвазе, што Беларусь не на Балканскім паўвостраве, яна знаходзіцца ў самым геамэтрычным цэнтры Эўропы. Калі, не дай Бог, нашая бяда станецца бядою Эўропы, дык цяжка ўявіць, што будзе.

Мы маем падтрымку з Эўропы, але гэтая падтрымка намнога меншая, чым падтрымка Лукашэнкі Расеяй. Таму нашай апазыцыі даводзіцца змагацца ня толькі з Лукашэнкам, але й з расейскімі шавіністамі, каторыя яму дапамагаюць. На мой погляд, заходнія краіны проста недаацэньваюць небясьпекі, каторая можа быць з боку Расеі, калі на чале яе стане такі неўраўнаважаны чалавек, як Лукашэнка.

*Падрыхтаваў* **А. М.**

## Зварот

**да народаў Беларусі, усіх беларусаў сьвету, парлямантаў і ўрадаў дэмакратычных краінаў**

*20 ліпеня 1999 году скончыўся тэрмін паўнамоцтваў Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі, нелегітымнымі сталі і ўсе прызначаныя ім структуры.*

*З гэтай нагоды, згодна з 105-ым артыкулам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, да прынясеньня Прысягі новаабраным Прэзыдэнтам паўнамоцтвы Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь перайшлі да Старшыні Вярхоўнага Савету Сямёна Шарэцкага, а абавязкі Старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь — да Першага намесьніка Старшыні Вярхоўнага Савету Віктара Ганчара. У бліжэйшыя дні павінен быць сфармаваны й новы Ўрад. Згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь павінныя адбыцца выбары Прэзыдэнта.*

*Аднак А. Лукашэнка й створаны ім рэжым, выкарыстоўваючы антыканстытуцыйныя мэтады, працягваюць утрымліваць уладу. Больш таго, яны й далей робяць захады ў справе аб'яднаньня Беларусі з Расеяй у адну дзяржаву, прэзыдэнтам якой марыць стаць А. Лукашэнка. На жаль, ва ўсім гэтым іх падтрымліваюць многія расейскія палітыкі, якія таксама жадаюць аднаўленьня імпэрыі.*

*Мы зьвяртаемся да народу Рэспублікі Беларусь і ўсіх беларусаў сьвету з заклікам спрыяць станаўленьню ў Беларусі канстытуцыйнай улады, усталяваньню незалежнай дэмакратычнай прававой дзяржавы.*

*Мы зьвяртаемся да парлямантаў і ўрадаў дэмакратычных дзяржаваў з заклікам не прызнаваць узурпатара і ўтвораныя ім у Беларусі антыканстытуцыйныя структуры, спрыяць імкненьню беларускага народу да незалежнасьці, падтрымаць права беларусаў вызначаць свой лёс праз дэмакратычна абраную ўладу.*

Прэзыдэнт Беларускай Народнай Рэспублікі **Івонка Сурвілла**

[redacted]

Дэпутат Вярхоўнага Савету **Станіслаў Шушкевіч**

Прэзыдэнт Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» **Радзім Гарэцкі**

### Вельмі занепакоены

тымі непаладкамі, якія паўсталі сярод актыву й сяброў БНФ і вядуць Фронт да вялікага — і вельмі шкоднага для Беларусі — расколу. Нельга нам ніколі забывацца, што непаладак ці раскол у беларускіх патрыятычных арганізацыях быў, ёсьць і заўсёды будзе на карысьць толькі й выключна ворага, і я ёсьць таксама ўпэўнены, што ў цяперашнім непаладку сярод фронтаўцаў ёсьць моцна задаволены, зацікаўлены й замешаны вораг! Гэты непаладак трэба як найхутчэй залагодзіць і да пагражаючага расколу не дапусьціць! Задаю сабе пытаньне, у чым ёсьць фактычна справа? Паколькі я знаю, усе сябры кіраўніцтва БНФ, як у замежжы, гэтак і ў Беларусі, былі й ёсьць адданымі патрыётамі Бацькаўшчыны. Дык тагды выглядае, што прычынай цяперашняга непаладку ёсьць разьбежнасьці ў палітычных і асабістых поглядах асобных кіраўнікоў, і дзеля гэтага, на маю думку, усім нашым патрыётам неабходна спыніцца на хвілінку ды добра перадумаць усё ўжо зробленае, сказанае ці заплянаванае й прыйняць базу дзейнасьці, якая забясьпечыць кожнаму кіраўніку БНФ належную пашану й прызнаньне, — і гэтым самым аднавіць тую еднасьць, якая ёсьць вельмі пільна патрэбная ў змаганьні за незалежную будучыню!

У ненадта далёкай мінуўшчыне мне даводзілася спатыкацца зь некаторымі кіраўнікамі Афрыканскага Нацыянальнага Кангрэсу, каторы вёў зацятую барацьбу зь белымі дыскрымінатарамі за сваю свабоду й людскую годнасьць у Паўдзённай Афрыцы. Як вынік урадавага перасьледу і ўціску шмат галоўных кіраўнікоў АНК былі змушаныя таксама ўцячы за мяжу, дзе яны арганізавалі свае баявыя адзінкі. Але з цягам часу паўсталі сярод гэтых кіраўнікоў вялікія разьбежнасьці ў поглядах, як трэба было праводзіць тактычнае змаганьне на радзіме. Даходзіла нават да збройных сутычак паміж вайсковымі адзінкамі — прыхільнікамі таго ці іншага кіраўніка. А гэтае было акурат тое, чага хацеў вораг! Дзякаваць Богу, цьвярозы розум перамог, і на доўгіх і цяжкіх перамовах кіраўнікоў Кангрэсу ў суседняй Замбіі была прыйнятая Пастанова агульназнаная пасьля, як «паўдзённа-афрыканскі варыянт змаганьня»:

*1. Галоўнай мэтай змаганьня ёсьць асягненьне годнасьці, роўнасьці й вольнасьці кожнага грамадзяніна Паўдзённай Афрыкі.*

*2. Адкласьці выкананьне розных палітычна-сацыяльных плятформаў да часу поўнай перамогі над ворагам.*

*3. Прызнаньне й пашана галоўнаму кіраўніку АНК у замежжы, абавязкам каторага зьяўляецца належная інфармацыя сусьветнай супольнасьці й здабываньне маральна-дыпляматычнай падтрымкі.*

*4. Кіраўніцтва тактычнага, штодзённага змаганьня на тэрыторыі Паўдзённай Афрыцы мусіць быць у кампэтэнцыі тых лідараў, каторыя надалей жывуць і змагаюцца на радзіме.*

Такі разумны падыход да справы вызваленьня ды адноўленая еднасьць дзейнасьці ўсіх сяброў і прыхільнікаў Кангрэсу былі пачаткам хуткай і поўнай перамогі над апанэнтамі. І дзеля гэтага я прапаную кіраўніцтву й сябрам БНФ, як у замежжы, гэтак і на Бацькаўшчыне, таксама прыйняць «паўдзённа-афрыканскі варыянт»:

*1. Галоўная мэта змаганьня ёсьць забясьпечаньне незалежнасьці Беларусі.*

*2. Сп. Зянон Пазьняк прызнаецца й шануецца як Ганаровы старшыня БНФ, абавязкам каторага ёсьць пашыраная дыпляматычная інфармацыя сусьветнай супольнасьці пра прабег падзеяў у Рэспубліцы Беларусь і здабываньне патрэбнай дапамогі з боку іншых краінаў сьвету.*

*3. Тактычнае кіраўніцтва змаганьня перадаецца ў рукі кіраўніцтва БНФ на Бацькаўшчыне, бо з практычнага пункту гледжаньня немагчыма эфэктоўна кіраваць штодзённым змаганьнем з далёкага замежжа.*

Жыцьцё незалежнай Рэспублікі Беларусь ёсьць шмат важнейшае за палітычныя перакананьні асобных лідараў Фронту, увядзеньне якіх мусіць быць адкладзенае да часу перамогі над ворагам.

*Генэральны сакратар*
*Беларускага Аб'яднаньня Аўстраліі*
**Алесь Алехнік**

### Артыкул «У татарскім палоне»

жудасная сытуацыя, калі чалавек ня ведае, што яго нечакана можа напаткаць ліха ліхое. Але, хвала Богу, чалавек вярнуўся дадому. Я ня маю моцнага даверу да былых савецкіх урадоўцаў, якія нават цяпер працуюць на два бакі. Можа ў іх няма іншага выхаду, але гэта небясьпечна працаваць на дзьве сыстэмы. Усе знаюць, што былыя камуністы, як працавалі ў сваіх установах, гэтак і прадаўжаюць працаваць. Яны мелі шыльды камуністычныя, цяпер у іх шыльды дэмакратычныя, — і дзеля гэтага ніхто гэтым урадоўцам ня верыць. Мала хто адважваецца сказаць ці напісаць аб тых жудасьцях, якія тварыліся, як камуністычныя ўрады былі ў большай сіле. Хіба з-за мяжы нехта адгукнецца. Пакуль жа ўрадоўцам жывецца лепш, чым працоўным, дык будзе цягнуцца гэты злачынны лад жыцьця. Будзе цягнуцца, пакуль усім не абрыдзіць і людзі не пачнуць думаць і гаварыць інакш. Лічу таксама нездаровымі тых людзей, каторыя стварылі ўрад, які не паляпшае, а пагоршвае людзкое жыцьцё. Аднак такое ня будзе цягнуцца вечна. Людзі з сваёй хворай ідэалёгіяй паміраюць, народзяцца новыя ідэі, усё памяняецца на новы лад. Бог дасьць, будзе іншае жыцьцё.

Аднак і ў спакойнай Амэрыцы часам адбываецца для мяне незразумелае. Чаму, напрыклад, школьнікі бяруць зброю ды забіваюць школьнікаў? Маю думку, што выхаваных без рэлігіі дзяцей нічога не забавязвае, што яны не баяцца ні Бога, ні чорта. А калі б верылі, што ёсьць Бог, ёсьць рай, каторы трэба заслужыць, дык не забівалі б. Але ў нас, у Амэрыцы, рэлігія адлучаная ад школы, і школьнае выхаваньне падобнае да камуністычнага. На тэлебачаньні мала рэлігійных перадачаў... Што ж, можа пазьней нехта зразумее, што «Бяз Бога не да парога», але на гэта трэба час. І буду чакаць.

**Кастусь Верабей**
*Амэрыка*

### Памёр Антон Радзівіл

вядомы прадусэр, стрыечны брат Джона Ф. Кэнэды Джуніёра (малодшага), маючы 40 гадоў (праз 25 дзён пасьля трагічнай гібелі ў авіякатастрофе Джона Ф. Кэнэды Джуніёра). Антон Радзівіл сын прынца Станіслава Альбэрта Радзівіла й Ліі, сястры Джаклін Кэнэды (Онасыс).

**Кастусь Верабей**

### Гімнастка Вольга Корбут

як паведамляе нашая тутэйшая рускамоўная газэта «В Новом Свете» ў артыкуле пад загалоўкам «Корбут не смогла стать американкой», нядаўна пераехала на сталае жыцьцё ў Англію. Прычына пераезду Вольгі ў Англію ў газэце тлумачыцца тым, што ў Амэрыцы дзеці лянівыя ды тоўстыя, замнога ядуць, ня маюць належнага імкненьня да перамогі. У гэтай сытуацыі дзеці англічанаў зусім інакшыя, і Вольга Корбут мае надзею знайсьці ў Лівэрпуле й Лёндане, куды яна запрошаная дзеля адбору дзяўчынак на алімпійскія гульні 2004 і 2008 гг., сапраўдных вучаніцаў. Сцьвярджаецца, што ў Беларусь Вольга вяртаецца не зьбіраецца, бо лічыць, што кожны чалавек павінен жыць там, дзе яму добра. Ёй было добра і ў Атлянцье, і, дай Божа, каб ёй яшчэ лепш было ў Лёндане.

**Кастусь Верабей**

### Сяргей Хрушчоў

сын былога савецкага генсэка Нікіты Хрушчова, 13 ліпеня стаўся грамадзянінам ЗША. Ён злажыў прысягу вернасьці той краіне, якую ягоны бацька абяцаў «пахаваць на магілках». Паводле маёй думкі, Амэрыка не павінная была даваць грамадзянства чалавеку, які не раскаяўся за грахі свайго бацькі. Апроч таго сын Нікіты Хрушчова не цярпеў голаду й холаду ў Савецкім Саюзе, карыстаўся з пакінутых яму бацькам дабрадзействаў. Амэрыка цяпер павінная замест людзей падобных да Сяргея Хрушчова прымаць тых, каму сталінскія канцэнтрацыйныя лягеры падарвалі здароўе. Выглядае так, што заходняя дэмакратыя таксама мае свае памылкі... Цікава, ці распавядае Сяргей Хрушчоў, які прафэсаруе ў Brown University, амэрыканскім студэнтам штосьці колечы нэгатыўнага аб савецкіх рэпрэсіях? Добра, аднак, тое, што ўцёкі на Захад нашчадкаў былых вялікіх савецкіх лідараў дыскваліфікуюць лад, які іхнія бацькі будавалі пры дапамозе рэпрэсіяў і мільёнаў нявінных ахвяраў.

**Ян Барысевіч**
*Аўстралія*

### Да пытаньня: Чаму ў Беларусі гарэлка танная?

Агульнавядома, што кожнае эксплуататарскае грамадзтва зацікаўленае ў спойваньні народу. Акрамя неймаверна вялікіх фінансавых прыбыткаў ёсьць яшчэ адна прычына, якая звычайна не афішуецца. Яе ў свойчас, ня тоячыся, выказала Кацярына II: «П'яным народам лягчэй кіраваць». І гэта не выпадковае выказваньне, кінутае ў кампаніі прыдворных дзеля прыгожага слоўца, а сьвядомы прынцып кіраваньня дзяржавай. Яшчэ Іван Грозны выкарыстаў яго супраць непакорных ноўгарадцаў. Каб «зьнясіліць народ» і зламаць ягоную волю да супраціву, ён заснаваў у зваяваным Вялікім Ноўгарадзе корчмы. Амаральны й антынародны паводле сваёй прыроды й сутнасьці мэтад кіраваньня верна служыў царызму й пазьней: «Школы больш шкодныя, чым корчмы», «Гарэлка ёсьць лепшы сродак супраць захапленьня палітыкай». Першае выказваньне належыць К. Лявоньцьеву, вядомаму прадстаўніку расейскага кансэрватызму, а другое — цяжка паверыць! — міністру асьветы Расейскае Імпэрыі.

**С. Цярохін**
*Беларусь*

### Чаго варты чалавек?

Жанчыне, якая знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку па дагляду за дзіцяцем, беларуская дзяржава плаціла сёлета ў жніўні крыху болш 3 млн. бел. рублёў ($ 7), а на дагляд міліцэйскай сабакі-аўчаркі ў службе аховы выдавала 7 млн. бел. рублёў!

***«Пагоня»** 53/99*

# І ўзьнімаліся крыжы...

14 (27) верасьня чакае нас сьвята Ўзьвіжаньня, сьвята, якое, як і іншыя, увабрала-зьнітавала ў сабе пазьнейшыя хрысьціянскія вераваньні з уяўленьнямі нашых далёкіх продкаў-паганцаў. Узьвіжаньне — дзень строгага посту. Пасьля велічаньня з алтара выносяць крыж, і ўсе вернікі апускаюцца на калені. А ў храме адбываецца чын узьвіжаньня Крыжа...

Пачатак гэтае традыцыі ўзыходзіць да тых далёкіх часінаў, калі вернікі-хрысьціяне шукалі той крыж, на якім быў распнуты Ісус Хрыстос. Маці бізантыйскага імпэратара Канстанціна ў 362 годзе загадала паставіць крыж на пагорку, каб ён добра быў бачны здалёку. Паводле ейнага ўказу й згодна зь легендай крыж быў падняты і на Галготу, дзе быў укрыжаваны Хрыстос. Галоўны рэлігійны сэнс сьвята ёсьць патрабаваньне да веруючых прайсьці той самы «крыжовы шлях», які прайшоў Месія, — адзіны шлях, каторы вядзе да выратаваньня.

А ў беларускіх вёсках у гэты дзень ставіліся крыжы на так званых «крыжавінах»: месцах, дзе сыходзяцца-перасякаюцца дзьве дарогі. Рукатворны крыж як бы дапаўняўся крыжам прыродным. Крыжавіна спакон вякоў сымбалізавала сабой канец чалавечага сьвету й пазначала ўваход у невядомае, таемнае і, найчасьцей, чужое. Успомніце думкі-развагі казачных герояў перад камянямі на раздарожжах, пасьля якіх пачыналася невядомасьць. І ў рэальным жыцьці да крыжавіны вяскоўцы праводзілі сваіх памерлых, туды ж праводзілі гасьцей, там разьвіталіся з рэкрутамі. Крыжавіна ўспрымалася як граніца сьвету паміж жывымі й мёртвымі.

Крыжавіны як бы ўбіралі ў сябе ўсё, што сыходзілася да іх з чатырох бакоў сьвету, зь няведамых далячыняў і нават з тагасьвету. Да крыжавінаў, згодна прымхаў, як да магніту цягнула й нячыстую сілу. Таму й шматлікія варожбы адбываліся таксама на ростанях. На Каляды дзяўчаты вымяталі хаты, а шумку несьлі на крыжавіну, каб пастаяць там і паслухаць брэх сабакаў ці сьпевы пеўняў, якія ўказвалі на дом будучага жаніха. На Купальле дзяўчаты на крыжавіне зубамі рвалі трыпутнік, каб пакласьці яго ўначы на галаву й чакаць у сьне суджанага. Адметна, што самы «экзамен на чарадзея» адбываўся менавіта на скрыжаваньнях дарог, бо тут пачыналі правіць законы антысьвету... Магчыма, што хрысьціяне імкнуліся асьвенціць «нячыстыя» паганскія крыжавіны ўзьвіжаньне крыжа, каб не прапусьціў злога, аберагаў і супакойваў людзей.

Сьвята Ўзьвіжаньня амаль супадае з асеньнім раўнадзенствам. Яно закрывае сабой лета: «Узьвіжаньне лета замыкае, ключык шызая галачка за мора панесла». Усё больш птушак адлятае ў птушыны рай-вырай, мядзьведзі ладзяць сабе бярлогі, зьвіваючыся ў клубкі, сыходзяць у свае норы гадзюкі й вужы. Казалі, што ўранні на ўзьвіжаньне трэба ўпільнаваць такі вужыны клубок ды адшукаць у ім «вужынага караля» з залатою каронаю на галоўцы. Калі выцяць яго «паплісканю», ён скіне свой залаты ўбор, падобны да двух зросшыхся дубовых лісткоў. Уладальнікам той кароны адкрыюцца ўсе зямныя скарбы.

**Тацяна Валодзіна**



Здымак Міхася Раманюка



Здымак Тацяны Маркавец

*З устаноўкай гэтай 8-мэтровай бэтоннай скульптуры Хрыста, работы нашага віленскага скульптара Эдуарда Падбярэскага, пачалося ў Літве сьвяткаваньне 2000-годзьдзя хрысьціянства. Скульптура ўстаноўленая й асьвенчаная пры старым менскім гасьцінцы перад утульным мястэчкам Рукайняй 22 жніўня 1999 г.*



Здымак Міхася Раманюка

*Адрас для допісаў:*
***«Рунь»***
***2001 Vilnius, a/d 1021 Lithuania***

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў



**Шаноўныя чытачы!**

Пасьля выхаду гэтага нумару «Руні» ў касе рэдакцыі застанецца сума, каторай ужо недастаткова для выданьня нумару наступнага. Зразумела, што сябры рэдакцыі робяць усё, каб знайсьці сродкі для далейшага выданьня газэты, робяць захады дзеля атрыманьня датацыяў і адпаведнай выдавецкай тэхнікі ад дабрачынных фондаў і прыватных фірмаў у Літве, Беларусі й замежжы. Аднак галоўнай крыніцай існаваньня газэты па-ранейшаму застаюцца вашыя падпісныя грошы й ахвяраваньні.

Сёньня выданьне накладу аднаго нумару газэты (разам зь перасылкай) абыходзіцца рэдакцыі ў $ 300. І гэта пры тым, што сябры рэдакцыі, разумеючы важнасьць для беларусаў усяго сьвету адраджэньня й захаваньня беларускага друку й, наагул, беларускай прысутнасьці менавіта ў нашай старажытнай сталіцы Вільні, – працуюць без заробкаў. Амаль не выплочваюцца й аўтарскія ганарары. Адным словам, газэта нашая робіцца на адным энтузіязме й веры ў лепшае будучае.

Шаноўныя чытачы, мы зробім усё каб «Рунь» выходзіла й надалей, аднак просім прабачэньня за магчымую нерэгулярнасьць ейнага зьяўленьня ў сьвет. Спадзяемся гэтаксама й на вашую матар'яльную падтрымку.

Чытачы далёкага замежжа могуць дасылаць грошы на падпіску й ахвяраваньні на рэдакцыю імянным чэкам сакратару газэты Паўлу Саўчанку (**Pavel Savcenko**). Кошт падпіскі на год – **$20**.

Жыхары Літвы могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі: **61 62 24**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt**.

Падпісчыкам у Беларусі ў наступным нумары паведамім адрас у Гародні. Ранейшы адрас скасоўваецца.

Падпісчыкам у Расеі паведамляем адрас у Санкт-Пецярбурзе: *191028 Санкт-Петербург, ул. Сикейроса 6-1-364, Ковалюк Евгении Трафимовне.* Кошт падпіскі на год – сума ў расейскіх рублях эквівалентная **$5**.

Падпісчыкам у Польшчы паведамляем адрас у Беластоку: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16-006 Barszczewo*. Кошт падпіскі на год – сума ў злотых эквівалентная **$8**.

***Ахвяраваньні на газэту:***

**К. Акула** з Канады $ 20
**Ю. Найдзюк** з Амэрыкі $ 5
**М. Белямук** з Амэрыкі $ 40
**І. Сурвілла** з Канады $ 40
**Р. Кардонскі** з Амэрыкі $ 30
**М. Баяроўскі** з Англіі 50 анг. ф.
**В Е ўдакімаў** з Англіі 50 анг. ф.
**Я. Барысевіч** з Аўстраліі 300 аў. д.

***Рэдакцыя РУНІ дзякуе Беларускаму цэнтральнаму камітэту ў Вікторыі й Яну Барысевічу, коштам якіх аплочаныя макетаваньне й друк гэтага нумару!***

РУНЬ газэта беларусаў Літвы

заснавальнік
**Таварыства беларускай культуры ў Літве**
выдаўцы
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя дзеля Беларусі»**
**Таварыства беларускай культуры ў Літве**
адрас рэдакцыі
*Zygimantų 12-3, 2001 Vilnius, Lithuania*
тэлефоны
*(+ 10 370 2) 42 38 02; 61 62 24*
**Алег Мінкін** — рэдактар
**Павал Саўчанка** — сакратар
**Сяргей Вітушка** — аддзел гісторыі
**Алег Аблажэй** — мастацкі аддзел
**Андрэй Цярэньцеў** — аддзел рэклямы
друк АВ «Spauda»
наклад 1000
*ISNN* **1392-7671**